

Газета творчай інтэлігенцыі Беларусі

# ЛіМ Літаратура і мастацтва

ISSN 0024-4686

№ 18 (4921) 5 мая 2017 г.



Мёрскі «эрмітаж» і Вітаўт 4

Нерасказаная гісторыя 5

Каханне Ажэшкі, любоў Толкіна 6

Першадрукар ці садоўнік? 13

За кулісамі «Харошак» 15

# БОЛЬШ ЧЫМ 1500




Фота БелТА.

Падчас адкрыцця выстаўкі «СМІ ў Беларусі».

**Прэзідэнт Беларусі Аляксандр Лукашэнка накіраваў прывітанне ўдзельнікам, гасцям і арганізатарам XXI Міжнароднай спецыялізаванай выстаўкі «СМІ ў Беларусі». «Гэта маштабная падзея мае ў нашай краіне вялікі грамадскі рэзананс. Штогадовая дэманстрацыя магчымасцей нацыянальных сродкаў масавай інфармацыі пераканаўча сведчыць пра іх значны патэнцыял», — гаворыцца ў прывітанні. Кіраўнік дзяржавы адзначыў традыцыйны ўдзел у выстаўцы прадстаўнікоў СМІ краін блізкага і далёкага замежжа. «Упэўнены, што правядзенне дыскусій, круглых сталоў, майстар-класаў вядучых журналістаў паслужыць павышэнню прафесійнага майстэрства і далейшаму развіццю дзелавых і творчых кантактаў у сферы сродкаў масавай інфармацыі», — падкрэсліў Аляксандр Лукашэнка.**

## У свята друку аглядаем айчынныя выданні ды іншыя медыя

Інфармацыя існавала заўсёды: на мурах сцен, калі яшчэ не думалі пра газеты, пісалі навіны, пасля — на драўляных табліцах, а ўжо потым — на паперы. Людзі не шкадавалі грошай на інфармацыю пра тое, што іх акаляла: плацілі за яе манетай пад назвай «газета», якая абазначыла з'яву. Але свет не стаіць на месцы, інфармацыйная прастора — у пастаянным руху, развіваецца — падлічыць, убачыць, прачытаць усё тое, што адбываецца ў свеце, стала немагчымым, але нікуды не падзелася прага інфармацыі. Доказ гэтаму — выстаўка «СМІ ў Беларусі», якая традыцыйна ладзіцца на пачатку мая і не застаецца без увагі. Чаму? Магчыма, з-за прыхільнасці людзей, для якіх давер да журналістаў і іх працы застаецца нязменным яшчэ з мінулых часоў. Беларускія СМІ цяпер адначасова і сучасныя, і традыцыйныя, але для іх узроўню па-ранейшаму істотныя прафесіяналізм, аб'ектыўнасць і адказнасць. Менавіта таму і дэвіз сёлетняй выстаўкі — «Нам давяраюць», але гэта не значыць, што ў вялікай айчыннай медыясферы няма пытанняў.

Міністр інфармацыі Рэспублікі Беларусь Лілія Ананіч адзначыла, што на сёлетняй выстаўцы будуць гаварыць у тым ліку і пра складаныя рэчы і праблемы ў развіцці прафесіяналізму і адказнасці СМІ, каб медыйнае поле нашай дзяржавы магло гэтак жа аб'ектыўна бачыць не толькі сваю краіну, але і яе адносіны з суседзямі.

Працяг на стар. 2 ▶




Фота Кастуся Дробава.

Сэлфі на ўспамін.

## Пункцірам

✔ Прэзідэнт Рэспублікі Беларусь Аляксандр Лукашэнка сустрэўся з прадстаўнікамі кітайскіх цэнтральных і рэгіянальных сродкаў масавай інфармацыі — удзельнікамі прэс-тура ў Беларусь. Кіраўнік дзяржавы мае намер узяць удзел у саміце «Адзін пояс і адзін шлях», які адбудзецца ў Пекіне ў сярэдзіне мая. Прэс-тур арганізаваны спецыяльна напярэдадні саміту. «На форуме будуць разглядацца глабальныя пытанні», — адзначыў Аляксандр Лукашэнка.

✔ Прэзідэнт Беларусі павіншаваў з юбілеем народнага артыста Расіі Філіпа Кіркорава. «Высокае выканальніцкае майстэрства, талент і абаянне на працягу шматлікіх гадоў знаходзяць жывы водгук у сэрцах Вашых прыхільнікаў не толькі ў Расіі, але і за яе межамі», — гаворыцца ў віншаванні. «Вы заўсёды жаданы госць на фестывалі мастацтваў «Славянскі базар у Віцебску» і іншых канцэртных пляцоўках, — падкрэсліў Аляксандр Лукашэнка. — Упэўнены, Вы і далей будзеце ствараць новыя яркія праекты, спрыяць умацаванню сяброўства і культурнага супрацоўніцтва паміж народамі Расіі і Беларусі».

✔ У Беларускім культурным цэнтры ў Кішынёве адкрылася выстаўка антыфашысцкага плаката перыяду Вялікай Айчыннай вайны з фондаў Нацыянальнага гістарычнага музея Беларусі, прымеркаваная да святкавання Перамогі ў Вялікай Айчыннай вайне. Выстаўка дэманструе савецкі плакат часоў вайны як гістарычны дакумент. Прадстаўлена і сатырычнае выданне ЦК КП(б)Б «Раздавім фашысцкую гадзіну», якое друкавалася ў Беларусі для насельніцтва акупіраванай тэрыторыі і партызан. Да ветэранаў, прадстаўнікоў органаў дзяржаўнага кіравання Малдовы, дыпламатычнага корпуса, беларускай і іншых нацыянальных дыяспар звярнуліся Прэзідэнт Малдовы Ігар Дадон, пасол Беларусі ў Малдове Сяргей Чычук, старшыня Беларускага культурнага цэнтра Ганна Бабіна.

✔ Сёмая выстаўка цыкла «Сустрэчы» адкрылася ў Пасольстве Эквадора ў Мінску. Слова меў Надзвычайны і Паўнамоцны Пасол Рэспублікі Эквадор у Беларусі Карлас Ларэа Давіла. У пасольстве сабраліся прадстаўнікі дзяржаўных органаў і сродкаў масавай інфармацыі Беларусі, мастакі, прадпрымальнікі. У фармаце выстаўкі, арганізаванай пры падтрымцы прыватных калекцыянераў, побач з работамі эквадорскіх мастакоў Эдвіна Андрадэ, Карласа Мансальве і іншых была прадстаўлена калекцыя карцін вядомай беларускай дынастыі мастакоў Масленікавых. Падчас імпрэзы быў прадэманстраваны экспартны патэнцыял Эквадора ў кветкавай сферы — кожны наведвальнік атрымаў эквадорскую ружу.

# Больш чым 1500

«Ужо больш як 20 гадоў мы вядзём гэты праект, развіваючы нацыянальную інфармацыйную прастору, — адзначыла Лілія Ананіч. — Вялікі клопат кіраўніцтва дзяржавы аб развіцці медыясферы дае плён: мы маем паўнавартасную нацыянальную інфармацыйную прастору, насычаную больш чым 1500 нацыянальнымі друкаванымі СМІ, больш чым 270 тэле- і радыёпраграмамі. Мы з'яўляемся адкрытай інфармацыйнай прасторай, калі да нас імкнуцца многія інфармацыйныя плыні. Я ўпэўнена, што гэтая выстаўка падорыць новыя творчыя кантакты і новыя творчыя сустрэчы».



Намеснік прэм'ер-міністра Рэспублікі Беларусь Васіль Жарко, міністр інфармацыі Рэспублікі Беларусь Лілія Ананіч каля стэнда ганаровага госця выстаўкі — Кітайскай Народнай Рэспублікі.

Фота Кастуся Дробава.

Дарэчы, сёлетняя выстаўка «СМІ ў Беларусі» яшчэ больш акрэслівае добразычлівыя адносіны з іншымі краінамі: у форуме бяруць удзел яшчэ і Расія, Украіна, Азербайджан, Індыя, Балгарыя, Літва, Латвія, Германія, Турцыя, Грузія. Ганаровым госцем стала Кітайская Народная Рэспубліка, з якой Беларусь звязаная сяброўскімі адносінамі. Надзвычайны і Паўнамоцны Пасол Кітайскай Народнай Рэспублікі ў Беларусі Цуй Цы Мін адзначыў: «Супрацоўніцтва ў сферы СМІ з'яўляецца адным з найважнейшых вектараў паміж Кітаем і Беларуссю».



Тэхнічны прагрэс на выстаўцы «СМІ ў Беларусі».

Выстаўка «СМІ ў Беларусі» становіцца нагодай узгадаць і пра надыходзячыя святы — Дзень друку і Дзень радыё і тэлебачання, якія святкуюцца 5 і 7 мая. Але яшчэ адным важным днём для медыясферы стаў і дзень адкрыцця выстаўкі — Дзень свабоды слова, пра які нагадаў генеральны сакратар сусветнага кангрэса навінавых агенцтваў Максім Мінчаў: «Хочацца пажадаць калегам, каб у такі дзень яны заставаліся вернымі ўнікальнай, любімай, але вельмі хутка зменлівай прафесіі».

Змены адбываюцца і ў выніку працы журналіста: месца звыклай папяровай газеты пачынае займаць электронная версія, замест складаных і доўгіх тэкстаў прыходзяць блогі, інфармацыя скарае інтэрнэт. Але, нягледзячы на тое новае, сучаснае, хуткае, што адбываецца з сусветнай інфармацыйнай прасторай, самым каштоўным была і застаецца якасная, карысная і цікавая інфармацыя — менавіта таму і падзея, датычная да СМІ, выклікае рэзананс у грамадскасці. «СМІ ў Беларусі» — гэта не толькі рэтраспектыва, экскурсія ў сусвет прэсы, але і дыялог паміж вытворцам і спажыўцамі інфармацыі, рух медыяпрасторы.

Гэты рух заўважны на выстаўцы СМІ: яна стала яшчэ і выстаўкай дасягненняў тэхнічнага прагрэсу: такой колькасці тэхнікі і робатаў на форумах мінулых гадоў не было. Разам з тым узгадалі і пра традыцыі…

Традыцыі беларускага масавага друку закладваліся ў тым ліку выданнямі, што аб'яднаныя ў Выдавецкім доме «Звязда». Да яго сёлета асаблівая ўвага. Па-першае: адзіная грамадска-палітычная штодзённая газета на беларускай мове сёлета святкуе 100-гадовы юбілей. Газета ўнікальнага лёсу заўсёды мела свой характар, здолела яго праявіць нават у гады фашысцкай акупацыі: выдавалася ў падполлі. Таму падчас адмысловай прэзентацыі «Звязда» раскрыла сваю гісторыю патэнцыйным чытачам: дарэчы, ці ўсе ведаюць, колькі помнікаў пастаўлена гэтай газеце?.. Але ў Выдавецкім доме «Звязда» некалькі выданняў, якія могуць ганарыцца сваёй гісторыяй: часопіс «Полымя» рыхтуецца да 95-годдзя, і ўжо 85 гадоў у Беларусі выходзіць штотыднёвік «ЛіМ». Наша прэзентацыя сёлета сканцэнтравалася вакол Скарынавай тэмы: своеасаблівы эксперымент па спалучэнні журналісцкай апытанкі з мультыплікацыяй увасобіў мастак-аніматар Глеб Куфцэрын. Ролік можна пабачыць на старонцы газеты ў інтэрнэце.

Таксама стагоддзе з пачатку існавання адзначае газета «Гомельская праўда», таму яе супрацоўнікі вырашылі прадэманстраваць, якой журналістыка была ў ваенныя гады, у часы, калі фотаапарат быў амаль стацыянарным з-за сваёй велічыні. Яшчэ больш даўнія часы ўзгадалі ля стэнда Віцебскай вобласці. Тут і першадрукар, і рамка для фотаздымкаў, выкананая з газет, і вялізныя боханы хлеба з назвамі газет. Але самым каштоўным экспанатам можна лічыць торт-слонік. Нават калі «слонік» з'ядуць, мова ўсё роўна застанецца.

Да 500-годдзя беларускага кнігадрукавання ўжо падрыхтаваліся і ў Брэсцкім рэгіёне. Тут знаёмяць з беларускай культурай наогул: танцы, песні, касцюмы, мова, а яшчэ можна паглядзець на майстэрства вырабу манет і нават навучыцца вырабляць грошы самому...

А Магілёўская вобласць паказвае кніжную мудрасць праз стагоддзі: старажытныя рукапісы і іх ахоўнік-першадрукар нагадвалі пра багацце беларускай літаратурнай спадчыны і вярталі ў часы, калі журналістыкі ў сучасным уяўленні наогул не было.

У Гродзенскай вобласці сёлета ладзіўся конкурс на лепшую самаробную кнігу — у ім удзельнічалі і маленькія дзеткі. Лепшыя экзэмпляры прадставілі на выстаўцы: тут і вокладкі, сплеценыя з лазы, саломы, лёну, зробленыя з дапамогай вышыўкі і аплікацыі. Пераможцам конкурсу стала кніга, якой сапраўды месца ў музеі «Астравеччыны маладая рунь», — збор твораў вядомых беларускіх літаратараў, «надрукаваны» на ільняных старонках з драўлянай вокладкай. А калі хочацца паспрабаваць сябе ў друкарскай справе — калі ласка, Ваўкавыская друкарня дае такую магчымасць!

Ля стэнда сродкаў масавай інфармацыі Мінскай вобласці людзей здзіўлялі… людзьмі! Маленькія вундэркінды ў касцюмах вучоных паказвалі хімічныя вопыты, дэманстравалі цуды ведання геаграфіі, зацікаўлівалі расповедамі пра космас — адзначылі Год навукі.

Дзіцячыя газеты і часопісы, як заўжды яркія, сталі прыцягальнай пляцоўкай нават для дарослых. Дарослыя ж выданні прываблівалі тэхнічным прагрэсам. Газеты для настаўнікаў выклікалі на дапамогу вялізнага робата, вайсковыя выданні прапаноўвалі пагуляць у «Танкі» ці «пастраляць» з віртуальнага гранатамёта ці радара супрацоўніка ДАІ. Словам, паглыбіцца ў медыясферу не толькі рэальную, але і віртуальную, можна лёгка.

Дарэчы, тым, хто марыць паспрабаваць сябе ў журналістыцы, такі шанец даецца і на выстаўцы «СМІ ў Беларусі»: АНТ прапануе зняцца ў выпуску навін, а радыёстанцыі — пакіраваць пультам радыёвядучага.

Геаграфія выстаўкі, як і саміх сродкаў масавай інфармацыі, выклікае захапленне: розныя дзяржавы, розныя традыцыі і ўвасабленні, розныя менталітэты, але зразумелая кожнаму мова медыя — няважна, спрабуем мы сябе ў ролі першадрукара ў беларускай друкарні ці адчуваем старонку з кітайскімі іерогліфамі, угадваем, чым славіцца Гомельская вобласць, ці лічым, колькі газет у рэгіёнах Расіі. Менавіта ў зносінах, інфармацыі, якую мы чытаем у інтэрнэце ці газеце, чуем па радыё ці на тэлебачанні, і адчуваецца наша агульнае, праглядае падабенства і ўзнікае жаданне пераадолець адлегласці.

**Маргарыта ДЗЯХЦЯР**

**Заканчэнне. Пачатак на 1-й стар.**

**Мінскае гарадское аддзяленне СПБ запрашае:**

**10 мая** — *у Школу юнага празаіка пры Мінскім гарадскім аддзяленні СПБ. Пачатак у 14.30.*

**11 мая** — *на творчую сустрэчу з пісьменнікамі ў Сацыяльна-педагагічны цэнтр Фрунзенскага раёна. Пачатак а 12-й гадзіне.*

**11 мая** — *на творчую сустрэчу з пісьменнікам Міхасём Пазняковым у Ждановіцкую бібліятэку Мінскага раёна. Пачатак у 14.30.*

**11 мая** — *на творчую сустрэчу з пісьменнікам Уладзімірам Тулінавым, прысвечаную Дню Перамогі, у публічную бібліятэку № 13. Пачатак а 17-й гадзіне.*

**12 мая** — *у Школу юнага паэта пры Мінскім гарадскім аддзяленні Саюза пісьменнікаў Беларусі. Пачатак у 14.30.*

**Віцебскае абласное аддзяленне СПБ запрашае:**

**10 мая** — *на літаратурную вечарыну «Дзень Перамогі — галоўнае свята» ў Віцебскую абласную бібліятэку імя У. І. Леніна з удзелам віцебскіх пісьменнікаў. Пачатак а 14-й гадзіне.*

**11 мая** — *на абласны этап рэспубліканскага конкурсу работ творчай моладзі «Золотое перо "Белой Руси"-2017» у Віцебскі дзяржаўны тэхналагічны ўніверсітэт. Пачатак аб 11-й гадзіне.*

**Магілёўскае абласное аддзяленне СПБ запрашае:**

**11 мая** — *на літаратурны вечар, прысвечаны 750-годдзю г. Магілёва, у МДУ імя А. А. Куляшова. Пачатак у 12.30.*

**12 мая** — *на творчую сустрэчу з пісьменнікам Мікалаем Давідовічам у сярэднюю школу аграгарадка «Леніна» Бабруйскага раёна. Пачатак а 12-й гадзіне.*

*У Саюзе пісьменнікаў Беларусі*

# Паэтычнымі штрыхамі

Адзін з кірункаў дзейнасці Мінскага гарадскога аддзялення СПБ — праца з тымі, хто толькі спрабуе свае сілы ў літаратуры. Літаб'яднаннем «Слова», што на базе публічнай бібліятэцы № 3, кіруе пісьменніца і журналіст Ганна Кашуба.

Паэтамі не становяцца. Каб пісаць вершы, недастаткова аднаго ўмення рыфмаваць. Ды і прозай распавядаць лепш за ўсё пра адчутае, перажытае. Невыпадкова падчас імпрэзы ў бібліятэцы № 3 паэтэса Вольга Сакалова згадала радкі Сяргея Грахоўскага: «На самай дробнай і адказнай працы / Пакінуць можна незабыўны след. / А вось паэтам нельга ўладкавацца, / паэтам нараджаецца паэт». Пра гэта звычайна разважаюць на сустрэчах у межах «Слова».

Сваім захапленнем і досведам Ганна Адамаўна ахвотна дзеліцца і з дзецьмі: яна мае вышэйшую педагагічную катэгорыю, заснавальніца дзіцячага пазашкольнага цэнтра беларускай культуры ў Заводскім раёне сталіцы. Саюз пісьменнікаў Беларусі паспрыяў выданню калектыўнага зборніка «Мелодия рассвета», укладзенага Ганнай Адамаўнай. У кнігу ўвайшлі лепшыя творы вучняў сталічнай сярэдняй школы № 184.

«Слова» аб'ядноўвае людзей сталага ўзросту, якія падчас сустрэч у межах літаб'яднання чытаюць паэтычныя і празаічныя творы, абмяркоўваюць актуальныя пытанні беларускай мовы і культуры. Сярод сяброў літаб'яднання — былы дырэктар сярэдняй школы № 173, выдатнік адукацыі Рэспублікі Беларусь, аўтар чатырох паэтычных зборнікаў Ніна Кісялёва. Скончыўшы літаратурна-музычны факультэт Мінскага дзяржаўнага педагагічнага інстытута імя М. Горкага, Ніна Іванаўна не адно дзесяцігоддзе выкладала беларускую мову і літаратуру. Ірына Цуканава піша кароткія апавяданні. А яшчэ — песні на вершы Святланы Шашко-Шаблінскай, якая таксама наведвае «Слова». У літаб'яднанне ўваходзяць не толькі паэты і празаікі. Напрыклад, Святлана Бялецкая піша п'есы, адну з якіх — на велікодную тэму — прадставіла падчас сустрэчы. А Павел Меркуль не толькі стварае вершы і кладзе іх на музыку.

У сталіцы працуе больш як дзясятак літаратурных гурткоў, клубаў і студый, якія ўзначальваюць пісьменнікі. Напрыклад, паэтэса Іна Фралова ўзначальвае літаратурную студыю «Малінаўскія галасы» пры дзіцячай бібліятэцы № 15, паэтэса Тамара Залеская — літаб'яднанне «Акорд» пры дзіцячай бібліятэцы № 2.

**Яна ЯВІЧ**

*Актуальна*

# Кнігі сталі бліжэй



### Падведзеныя вынікі першага этапу праекта *movabox*

Дарога да кнігі ў кожнага свая. Нехта кіруецца парадамі сяброў і калег, нехта знаходзіць новыя цікавыя творы праз сацыяльныя сеткі, а нехта — дзякуючы праекту падтрымкі сучаснай беларускай літаратуры *movabox*, які паўгода таму распачала кампанія *velcom*. Завяршыўся яго першы этап, але на гэтым праца па папулярызацыі кнігі і чытання не скончылася.

Так, як адзначыў падчас заключнай імпрэзы кіраўнік аддзела брэнд-менеджменту кампаніі *velcom* Зміцер Курловіч, за час працы праекта спецыяльны сайт наведала каля 50 тысяч чалавек. Больш за 20 тысяч прайшлі адмыслова распрацаваныя тэсты па кнігах. На кожную скрынку *movabox*, што змяшчае артэфакты, звязаныя з сюжэтам выданняў-удзельнікаў праекта, прэтэндавала каля 110 чалавек, якія пакінулі свае кантакты для сувязі.

Цягам паўгода чытачы атрымалі магчымасць стацца сведкамі прыгодаў Пранціша Вырвіча, здзейсніць вандроўку па казачным лесе разам з «Дзецьмі Аліндаркі», пабыць хуліганамі, пачытаўшы вершы са зборніка «Дзяцел і дупло» і заглыбіцца ва ўласны космас праз кнігу «Радзіва "Прудок"». Некаторыя шчасліўчыкі мелі шанец займець скрынкі з артэфактамі, а некаторыя — асабіста пазнаёміцца з любімымі аўтарамі. Таксама ў межах праекта — дыскусія пра сучасную беларускую дзіцячую літаратуру, а ў кавярнях сталіцы і сямі іншых гарадоў краіны былі ўстаноўленыя скрынкі для бясплатнага беларускамоўнага буккросінгу з кнігамі сучасных айчынных пісьменнікаў.

Кожны з пісьменнікаў-удзельнікаў праекта атрымаў новы досвед узаемадзеяння з публікай. Нехта адзначыў нечаканасць новага «ўвасаблення, апрадмечавання» твора ў скрынках *movabox*, хтосьці палічыў праект і яго шырокі грамадскі рэзананс доказам таго, што і ў сучаснай Беларусі праца пісьменніка не марная. Але ўсе пагадзіліся з адным: праект яшчэ раз пацвердзіў, што наша літаратура жыццяздольная, паўнавартасная і цікавая. Варта толькі паказаць чытачу шлях да кнігі, зрабіць больш шырокай і даступнай інфармацыю пра яе.

Дарэчы, на гэтым *movabox* не развітваецца з чытачамі. Скрынкі для буккросінгу час ад часу будуць папаўняцца новымі выданнямі, а атрымаць параду пра кнігу, якую варта было б прачытаць, можна дзякуючы новаму сервісу *movabot*, што працуе пры падтрымцы сайта *kniharnia.by*.

**Марына ВЕСЯЛУХА**

# ДАЧНЫ СЕЗОН АДКРЫВАЕ БЫКАЎ

**З гэтай серады распачаў працу музей Васіля Быкава, што месціцца ў аграгарадку Ждановічы пад Мінскам.**

Лецішча — нязвыклы для Беларусі музейны фармат, у параўнанні з той жа Ялтай, напрыклад. Музей-дача Быкава адкрыўся для наведвання ў 2014 годзе і з'яўляецца філіялам Дзяржаўнага музея гісторыі беларускай літаратуры. Лецішча перадала ў дзяржаўнае ўладанне ўдава пісьменніка Ірына Міхайлаўна, а стварэнню музея на яго тэрыторыі спрыяў колішні міністр культуры Беларусі Павел Латушка. Сёлетні, чацвёрты, дачны сезон распачаўся 3 мая.

Да яго адкрыцця музейныя супрацоўнікі падрыхтавалі выстаўку "Усе мы родам з дзяцінства...»: можна пабачыць унікальныя фотаздымкі і малюнкі Васіля Быкава, даведацца пра дзяцінства пісьменніка, а таксама пазнаёміцца з гісторыяй таго самага венскага крэсла, здабытага малым Васілём у пакінутай школе. Сама навінка фондаў гэтаксама будзе прэзентаваная наведнікам.

Зрэшты, лецішча зацікавіць не толькі аматараў навізны: прывабная тут сама атмасфера, захаваны дачны побыт Быкава 1985 — 1998 гадоў. На сваіх месцах засталіся карціны, створаныя пісьменнікам, малюнкі, чарнавікі, захоўваецца ліст Твардоўскага да Быкава і, вядома, шматлікія кнігі з аўтографамі. У гасцёўні, за дубовым сталом, Быкаў падоўгу сядзеў з калегамі-сябрамі — Алесем Адамовічам, Рыгорам Барадуліным, Генадзем Бураўкіным. На кухні — звыклае савецкае афармленне з краналынымі штрыхамі-малюнкамі на сцяне. У гаражы месціцца экспазіцыя, звязаная з «аўтамабільным» жыццём пісьменніка, а таксама мапа «Дарогі Васіля Быкава», дзе пазначаныя краіны, у якіх пабываў творца. Можна патрапіць нават у святая святых — яго рабочы кабінет.

Знаходзіцца лецішча па адрасе а. г. Ждановічы-6, вул. 6-я Дачная, д. 62.

**Уладзімір ГОРЫНЬ**

*Дайджэст*

• Беларускія музыкі запішуць песні на вершы расстраляных паэтаў. Праект «(Не) расстраляная паэзія» распачаў партал *TuzinFM*. Удзельнікі праекта створаць песні на вершы паэтаў, якія былі расстраляныя 29 кастрычніка 1937 года. Кожны абраў «свайго» паэта: гурт *Naka* — Валерыя Маракова, рэпер *Angst* — Зяму Півавара, *TonqiXod* — Тодара Кляшторнага, *Pomidor/off* — Майсея Кульбака. Усяго прэзентуецца 12 кампазіцый ад 12 выканаўцаў. Адмыслова да праекта рэжысёр Арцём Лобач зрабіў прома-ролік, у якім зняліся Павел Харланчук, Андрэй Саўчанка і Алена Гіранок. Акрамя музычнай і дызайнерскай часткі ў праекце будзе адукацыйны складнік — на восень запланавана зладзіць 12 адкрытых лекцый. Кожную з іх правядзе знаўца жыцця і творчасці канкрэтнага творцы разам з музыкамі. Падчас лекцый упершыню будуць зайграныя ўжывую песні на словы паэтаў.

• Амерыканскі тэлеканал *HBO* экранізуе знакаміты раман Рэя Брэдберы «451 градус па Фарэнгейце». Дзеянні твора разгортваюцца ў будучыні, дзе гісторыя аб'яўленая па-за законам, а супрацоўнікі пажарнай службы адбіраюць і спальваюць кнігі. У фільме галоўныя ролі выканаюць Майкл Б. Джордан, вядомы па кінакарціне «Фантастычная чацвёрка», і Майкл Шэнан — «Чалавек са сталі». Над сцэнарыем будучага фільма працуюць стваральнікі фільма «99 дамоў» — Рамін Бахрані і Амір Надэры. Першы таксама стане рэжысёрам кінакарціны. Праца над новым праектам толькі пачалася, таму дата выхаду пакуль невядомая.

• Стартаваў першы беларускі вэб-серыял жахаў «Заклятыя скарбы». Першая серыя беларускамоўнага хорар-серыяла, над якім працуе каманда маладых творцаў з Мінска, называецца «Галаву складзеш». У чацвер, 28 красавіка, яе выклалі ў адкрыты доступ. Сюжэт серыяла «Заклятыя скарбы» зняты па матывах традыцыйных беларускіх легендаў ды паданняў. Аўтар ідэі праекта — рэжысёр Серж Аўсянік. Над сцэнарыем працавалі Зміцер Шкрадзюк, Серж Аўсянік і літаратарка Валярына Кустава. У першым сезоне новыя серыі будуць выходзіць штомесяц. Першую аўтары знялі за свой кошт. «Мы будзем вельмі рады, калі знойдуцца тыя, хто захочуць нас падтрымаць», — кажуць стваральнікі серыяла. Гэта дэбют у мастацкім кіно для сцэнарыстаў і рэжысёра. Галоўныя ролі ў першай серыі «Галаву складзеш» выканалі фронтмен «Нейра Дзюбеля» Аляксандр Кулінковіч і артыст Васіль Бойдак.

# ЛіМ-каляндар

**1 мая** — 85 гадоў з дня нараджэння Генадзя Кляўко (1932 — 1979), беларускага паэта.

**1 мая** 75 гадоў споўнілася Міхаілу Басалыгу, беларускаму графіку.

**1 мая** 60 гадоў адсвяткавала Марыя Таболіч, беларускі жывапісец, педагог.

**1 мая** 60-годдзе адзначыў Сцяпан Янкоўскі, беларускі жывапісец.

**2 мая** — 90 гадоў з дня нараджэння Уладзіміра Кудрэвіча (1927 — 2003), беларускага акцёра, заслужанага артыста БССР.

**3 мая** — 140 гадоў з дня нараджэння Антона Грыневіча (1877 — 1937), збіральніка і папулярызатара беларускага музычнага фальклору, выдаўца, педагога, кампазітара.

**3 мая** 80 гадоў адзначыла Ала Лявонава, беларускі мастацтвазнаўца.

**3 мая** 75 гадоў споўнілася Марыі Вайцяшонак, беларускаму празаіку, публіцысту.

**3 мая** 70-гадовы юбілей адсвяткавала Ніна Казлова, беларуская спявачка, заслужаная артыстка Рэспублікі Беларусь.

**3 мая** 60 гадоў адзначыў Аляксандр Батвінёнак, беларускі скульптар.

**4 мая** — 85 гадоў з дня нараджэння Міколы Прашковіча (1932 — 1983), беларускага літаратуразнаўца, крытыка, перакладчыка.

**5 мая** — 100 гадоў з дня нараджэння Юрыя Багушэвіча (1917 — 1983), беларускага пісьменніка, перакладчыка, драматурга. Пісаў на рускай мове.

**5 мая** — 100 гадоў з дня нараджэння Антаніны Каменскай (1917 — 2002), беларускай актрысы, заслужанай артысткі БССР.

**5 мая** 80 гадоў спаўняецца Івану Сачуку, беларускаму гісторыку, пісьменніку, выкладчыку.

**7 мая** 95 гадоў адзначае Міхаіл Дружына, беларускі спявак, заслужаны артыст БССР.

**7 мая** — 80 гадоў з дня нараджэння Яўгена Красоўскага (1937 — 2004), беларускага жывапісца, педагога.

# ТРЫ ЦУДЫ МЁРАЎ

## Што схавана за школьнымі сцэнамі?

**Пра школьныя музеі, вы, пэўна, начуты. Там — у гонар знакамітага земляка. Тут — народнага побыту… Але калі нехта прапануе вам наведаць музеі мёрскай школы № 3 — не адмаўляйцеся. Нават не раздумвайце. Такога вы яшчэ не бачылі.**

### Гісторык па імені Вітаўт

Калі заязджаеце ў Мёры з боку Шаркаўшчыны, павярніце ад касцёла направа. Крыху далей па вуліцы Кірава вы ўбачыце школу — звычайны будынак, дрэвы-газоны… Зрэшты, што гэта ў глыбіні двара? Хата?..

Сапраўды, сялянская хата. Гэта — адзін з музеяў, заснаваны не мёрскімі ўладамі, і нават не школай, а адным-адзіным чалавекам. Вітольд Ермалёнак больш як сорак гадоў працуе тут настаўнікам гісторыі. Тут жа працуюць яго жонка й сын. Іх сям'я, пад нязменным кіраўніцтвам Вітольда Антонавіча, заснавала на тэрыторыі школы тры музеі: першы — Народны гістарычны, другі — Музей кнігі і друку, і самы новы — якраз тая самая хата, этнаграфічны музей.




Захавальнік мёрскай гісторыі Вітольд Ермалёнак.

Фота Алены Канапацкай.

Патрапіць сюды мы змаглі дзякуючы праекту «Літаратурнае падарожжа», распачатаму Дзяржаўным літаратурным музеем гісторыі беларускай літаратуры яшчэ ў 2012 годзе. Праект быў разлічаны на два гады, але аказаўся настолькі ўдалым, што жыццё яго працягваецца. Актыўна падтрымлівае «Літпадарожжа» новы дырэктар музея Зміцер Яцкевіч, і на мапе праекта неўзабаве з'явяцца новыя цікавыя маршруты. Так, ужо заяўлены вандроўкі ў Чарэю на радзіму Оскара Мілаша і ў Парэцкую школу — на радзіму Яўгеніі Янішчыц.

Гэтым разам удзел у падарожжы ўзялі літаратары Генадзь Пашкоў, Людміла Рублеўская, Іна Фралова, Міхал Бараноўскі. На сёння музей зладзіў больш за 20 мерапрыемстваў у межах праекта (гэта пры тым, што вядзецца вялікая праца з фондамі, якія налічваюць больш як 60 тысяч адзінак захавання). Выязджалі ў мясціны Багушэвіча, Міцкевіча, Быкава, Кляшторнага, нават у Эстонію, дзе жыў Ян Скрыган. Нязменны куратар вандровак — Лідзія Шагойка, загадчык культурна-адукацыйнага аддзела музея гісторыі беларускай літаратуры. Да яе з прапановай наведаць Мёры і звярнуўся Вітольд Ермалёнак (якога мы падчас экскурсій называлі Вітаўтам — і ён быў не супраць).

### Мёры і мора

Заходзім у Народны гістарычны музей, заснаваны ў 1986 годзе.

— Разганяцца не трэба, гэта не Эрмітаж. Але ў нас ёсць экспанаты, якіх няма і ў Эрмітажы, — кажа спадар Вітольд.

Экспанаты, выстаўленыя тут, знойдзеныя ім самім і «Арганаўтамі мінулага» — удзельнікамі гуртка, які існуе вось ужо сорак гадоў. 90% рэчаў — мясцовыя знаходкі. Многае спадар Вітольд падараваў раённаму музею, таксама — музеям Польшчы, Расіі, Кітая ды іншых краін.

Тут даведваемся, што на месцы старажытных Мёраў (а ім не менш як пяць тысяч гадоў) было мора: пра тое сведчаць выкапні, прыкладам, каралы, якім 200 млн гадоў. Бачым старажытныя ўпрыгожанні, прылады працы. Цікавая гісторыя звязаная з вітым бранзалетам XII стагоддзя, знойдзеным… у калгасным кар'еры. Тады аказалася, што на месцы планаваных работ знаходзіцца старажытнае пахаванне, прычым, унікальнае — чалавечыя косці былі проста закапаныя (а ў той час целы альбо спальвалі, альбо насыпалі над імі курганы). Неўтаймоўны гісторык тлумачыў старшыні калгаса, які камандаваў работамі, што тут капаць нельга. Гістарычная каштоўнасць! Пахаванне!.. На што старшыня толькі вылаяўся і, каб давесці сваю ўладу, загадаў трактарыстам раскопваць гэты самы кар'ер. Аднак пахаванне ўдалося выратаваць: у ход пайшла традыцыйная для вёскі валюта... Пасля ўжо мясцінай стала апекавацца Акадэмія навук.

А вось той самы прадмет, якому пазайздросціць славуты Эрмітаж: арабскі дырхем X стагоддзя — прычым, фальшывы, мядзяны. У Беларусі такіх больш няма. Як няма і кітайскіх фыняў з «узростам» 2300 гадоў. У маленькім школьным пакойчыку суседнічае неахопная гісторыя: бранебойныя стрэлы, якімі касілі крыжакаў, старажытны турэцкі бубен, грошы розных часоў і краін (ад рымскага дынарыя Веспасіяна, таго самага, што «не пахне», — да 10 більёнаў зімбабійскіх долараў), японская ваза, соуснік з Галандыі, зброя 1812 года… Ёсць пярсцёнак з жабраў шчупака, які пражыў 109 гадоў. І асаблівы гонар музея — люстэрка Эміліі Плятэр.

Пералік можна доўжыць і доўжыць, а калі распавядаць пра кожны такі экспанат… Але больш за кітайскі фынь і люстэрка нашай Жанны Д'Арк дзівіць упартасць, нястомнасць і неверагодная прафесійная інтуіцыя збіральніка цуда-музея.

### У полымя па кнігу

Наступны музей прысвечаны кнізе і друку. Працуе ён з 2009 года і прапануе ажно 17 экскурсій. Пачынаем з вытокаў пісьма: тут маюцца сапраўдныя егіпецкі папірус, кітайскі шоўк і гліняныя дошчачкі, пергамент XVIII стагоддзя (на ім — яўрэйскае пісьмо; з гэтага пергаменту пачалі было шыць боты; музей захоўвае тое, што ацалела).

— А вось гэты экспанат вельмі любяць шведы, — кажа спадар Вітольд не без гонару. Яно не дзіўна: прасліца XII стагоддзя… з шведскімі рунамі. Адзіная ў Беларусі.

Гісторык распавёў, як браў удзел ва ўратаванні аднаго з чатырох Барысавых камянёў, што знаходзіліся ў гэтым рэгіёне. З дна ракі камень выкопвалі тры дні, а пасля яшчэ тры месяцы намагаліся выцягнуць на сушу. У музеі застаўся аскепак таго каменя.



Тры эпохі — у адной хаце.

Фота Насты Грышчук.

Што да кніг, найстаражытныя рукапісныя і старадрукі належаць да XVIII стагоддзя. Насупраць іх — мара бібліяфіла: арыгінальныя «Рунь» Гарэцкага, «Першае чытанне для дзетак беларусаў», прыжыццёвыя кнігі Гаруна, Зоські Верас, Коласа і Купалы… Багата ў музеі старой духоўнай літаратуры, шмат польскіх кніг і перыёдыкі, ёсць выданні па розных галінах навукі на розных мовах, што сведчыць пра высокую адукаванасць мясцовых жыхароў.

Пры ўсім багацці збору ёсць тут дзве кніжачкі, якія асабліва дарагія спадару Вітольду, — іх ён выцягнуў з агню голымі рукамі. Было так: чакаў аўтобус у Друі, і з прыпынку заўважыў вогнішча. Дзядок паліць смецце, звыклая справа. Прыгледзеўся — а там кнігі! Ды якія!.. Вітольд Антонавіч, нядоўга думаючы, кінуўся проста ў агонь. Куртка згарэла па локаць, абгарэлі да крыві рукі. Затое цяпер вядома, што ў Друі ў XIX — XX стагоддзях жыў аптэкар Аўгуст Адлер, вучоны-самавук. Ён ліставаўся з замежнымі навукоўцамі, пісаў работы па аграноміі і сацыялогіі: выдаў вершаваную паэму пра заганы бальшавізму (і гэта ў той час, калі партыя толькі-толькі прыйшла да ўлады).

Дадатак у назве музея — «…і друку» — тлумачыцца калекцыямі паштовак, марак, календароў, філуменістычным зборам, якія таксама захоўвае Вітольд Ермалёнак. Ёсць, дарэчы, калекцыя марак, падараваная музею Сяргеем Панізнікам.

### Хэнд-мэйд па-беларуску

Гэта цяпер хэнд-мэйд — моднае хобі. Даўней толькі ўласнымі рукамі і можна было абшыць сям'ю, накарміць і стварыць неабходныя прылады, якія тое дазволяць зрабіць. Якраз такія рэчы, сапраўдныя, не бутафорскія, сабраў Вітольд Ермалёнак у этнаграфічным музеі «Сялянская хата». Адкрыты ён пару гадоў таму, а вось самой хаце (да слова, выкупленай самім гісторыкам) — 120 гадоў. Ужо на падворку бачым экспанаты: тачыла, якому 200 гадоў, польская малатарня 1731 года… Першы пакой падрабязна паказвае традыцыйны беларускі побыт XIX стагоддзя (дый ранейшага): вось «пральная машына» з алешыны, жорны, якія выбіў прадзед гісторыка, калатоўка, посуд, лыжкі страшных памераў, прызначэнне якіх без расповеду экскурсавода застаецца незразумелым, куфар з адзежай — сапраўднай, даматканай і ўласнаручна шытай (і надзіва прыгожай), пад бэлькай — лекавыя травы, па якіх праводзіцца асобная экскурсія (а ўсяго іх тут 17). Проста тут, у хаце, можна змалоць, прасеяць і спячы хлеб, балазе, усе «інструменты» рабочыя, як і печ.

Наступны пакой — польскі «праваслаўны», за ім — «каталіцкі». І пра кожную рэч спадар Вітольд распавядае не тое што з цвёрдым веданнем справы — нават з бацькоўскаю цеплынёй.

На гэтым мёрскі гісторык не спыняецца: неўзабаве адкрые чацвёрты музей, прысвечаны адукацыі Мёршчыны.



Адна з удалых знаходак — старадаўні турэцкі бубен.

Фота Алены Канапацкай.

***

…Словам, ехаць у Мёры варта не на дзень і не на два. З гэтымі мясцінамі звязаныя лёсы Язэпа Драздовіча, Вацлава Ластоўскага, Генрыха Дмахоўскага, Генадзя Цітовіча, Сяргея Панізніка, Франца Сіўко і іншых культурных дзеячаў, літаратараў. А калі вы раптам маеце прагалы ў веданні гісторыі нашай краіны, за які-небудзь тыдзень тут можна сур'ёзна падцягнуць свае пазнанні. І трэнер у вас будзе ці не адзін з лепшых у Беларусі.

**Наста ГРЫШЧУК**

# ЭПІСТАЛЯРНЫЯ ЭМОЦЫІ:

## гісторыя перакладу рамана Міхася Лынькова «Векапомныя дні» на рускую мову

**Выхад рамана-эпапеі Міхася Лынькова «Векапомныя дні», як бы ні ацэньвалі гэты твор крытыкі, быў падзеяй не толькі ў беларускай, але і ва ўсёй савецкай літаратуры. Праца, што пісьменнік пачаў яшчэ ў ваенныя гады, па розных прычынах на пэўны час прыпынялася. Але ў 1948 г. М. Лынькоў вызваліўся ад кіраўніцтва Саюзам пісьменнікаў БССР, палепшылася таксама здароўе жонкі Соф'і Захараўны (у яе быў сур'ёзны перапом). Пісьменнік актыўна займаецца напісаннем рамана. Перакладчык і добры сябар Міхася Ціханавіча Яўген Мазалькоў, які жыў і працаваў у Маскве, напрыканцы 1948 г. паведаміў, што раманам зацікавілася выдавецтва «Гослитиздат» (пазней — «Художественная литература») і ён гатовы прыступіць да перакладу. Але ў гэтым выдавецтве раман на рускай мове не выйшаў. І першым перакладчыкам твора быў не Я. Мазалькоў.**


Міхась Лынькоў.

### ПАМІЖ ПЕРАКЛАДЧЫКАМІ

У Беларускім дзяржаўным архіве-музеі літаратуры і мастацтва захоўваюцца дакументы, якія раскрываюць няпростую гісторыю перакладу і выдання «Векапомных дзён» на рускай мове. Гэта перапіска М. Лынькова з Я. Мазальковым і лісты пісьменніка, перакладчыка і дысідэнта В. Тарсіса да М. Лынькова.

Перада мной ліст М. Лынькова да Я. Мазалькова ад 24 снежня 1948 г. У ім мы чытаем, што менавіта Яўгена Сямёнавіча беларускі пісьменнік хацеў бы бачыць перакладчыкам рамана:

*«Польщён твоими разговорами в Гослитиздате, но всё же это дело ещё некоторого будущего, книга ведь не закончена, она только начата…*

*Одним словом, всё, что будет у меня готово, ты будешь иметь руками — сможешь — при случае и при желании — дать по кусочку куда-нибудь…*

*Что касается дальнейших судеб книги — смотри сам. Понятно, что никаких других переводчиков я не ищу и искать не буду»* (ф. 191, воп. 1, адз. зах. 420, л. 7—7 адв.).

Апрача Я. Мазалькова, разглядаліся кандыдатуры такіх перакладчыкаў, як П. Кабзарэўскі, Д. Осін і К. Цітоў, дакладней, магчымасць сумеснай працы Яўгена Сямёнавіча з імі. Але ніводзін з іх удзелу ў перакладзе «Векапомных дзён» не возьме.

Напрыканцы 1948 г., атрымаўшы 11 і 12 нумары «Полымя» з пачаткам рамана, Я. Мазалькоў адразу пераклаў кавалак тэксту і аддаў на радыё. З яго лістоў мы даведваемся, што на 1949 год ён планаваў пераклад рамана як сваю асноўную працу.

Вясной 1950 г. М. Лынькоў завяршыў першую кнігу эпапеі. Рукапіс ён прывёз Я. Мазалькову ў Маскву ў снежні. Аднак сітуацыя ўскладнілася. У пісьме да М. Лынькова 24 студзеня 1951 г. Яўген Сямёнавіч напісаў: *«Только на днях засел за "Незабываемые дни", …одолел уже процентов 60. … Говорю тебе от всей души — мне очень хотелось бы перевести весь роман, сделать всё по-своему и целиком отвечать за перевод. Но со здоровьем у меня неважно… Боюсь, что физически я не смогу довести дело до конца или очень затяну работу. Очень жалко отказываться от этой работы — интересной во всех отношениях и не знаю, что делать»* (ф. 191, воп. 1, адз. зах. 387, л. 6).

У канцы чэрвеня 1951 г. М. Лынькову даслаў ліст Валерый Тарсіс. Інфармацыя, якая ў ім змяшчалася, Міхася Ціханавіча збянтэжыла. В. Тарсіс напісаў, што прыступае да перакладу «Векапомных дзён» для выдавецтва «Советский писатель», і прасіў выслаць яму адрэдагаваныя першыя чатыры часткі рамана. М. Лынькоў адразу ж піша ліст Я. Мазалькову, у якім паведамляе пра сітуацыю і пытаецца, ці зможа ён быць перакладчыкам паловы кнігі і яе асноўным рэдактарам. Адказ быў катэгарычны: *«Переводить с Тарсисом "на пару" я не буду и тем более никогда не соглашусь редактировать его перевод. Слишком мы разные люди и поразному работаем»* (ф. 191, воп. 1, адз. зах. 387, л. 9).

М. Лынькоў адпісаў В. Тарсісу, што адмаўляецца ад яго прапаноў, бо не хоча падводзіць Я. Мазалькова, з якім дамовіліся пра пераклад раней. В. Тарсіс жа, калі яму верыць, не дачакаўся гэтага адказу і прасіў Міхася Ціханавіча выслаць яму рукапіс і рэцэнзію К. Крапівы. На пытанне М. Лынькова, чаму выдавецтва не апавясціла яго афіцыйна пра пачатак працы над перакладам, В. Тарсіс сказаў, што план 1952 года будзе зацверджаны сакратарыятам ССП толькі ў верасні — кастрычніку. А ўлічваючы вялікі аб'ём кнігі і яе значнасць для рускага чытача, вырашылі фарсіраваць работу.

Атрымліваецца, В. Тарсіс апярэдзіў Я. Мазалькова? На самай справе не. Міхась Ціханавіч, відаць, здзівіўся, калі ў пісьме Валерыя Якаўлевіча ад 3 жніўня 1951 г. прачытаў наступнае: *«С Евгением Семеновичем я уже веду второй год переговоры о том, чтобы мы перевели Вашу книгу сообща. Но принципиально соглашаясь на это, он в то же время практически отказывается, ссылаясь на свою перегруженность… И на днях Евгений Семенович мне сказал, чтобы я переводил один»* (ф. 191, воп. 1, адз. зах. 418, л. 2).

Так або інакш, сумеснай працы, хутчэй за ўсё, не атрымалася б. Як стала вядома, да ўдзелу ў перакладзе іншых людзей С. Кір'янаў ставіўся адмоўна. Прычына — указанне дырэктыўных органаў, каб кнігу кожнага аўтара даручаць толькі аднаму перакладчыку.

### ПАМІЖ ВЫДАВЕЦТВАМІ

С. Кір'янаў настойліва прасіў, каб рукапіс перакладу быў здадзены ў лістападзе 1951 года. Час падціскаў, таму, каб ніхто не замінаў працаваць, В. Тарсіс у верасні з'ехаў у Сочы. Тым часам у ЦК было прынята рашэнне: спачатку раман будзе выдадзены не ў «Советском писателе», а ў выдавецтве «Воениздат». У лісце ад 18 снежня 1951 г. В. Тарсіс напісаў:

*«Рукопись получил и уже отнёс её в "Воениздат". Она значится у них в плане, который в январе будет утверждаться, и они хотят её издать в первом полугодии. С "Сов. писателем" они договорятся. Полковник Козлов (Іван Цімафеевіч, адказны работнік выдавецтва. — Р. Д.) мне заявил: "Эта книга наша и мы должны её первые дать читателю"»* (ф. 191, воп. 1, адз. зах. 418, л. 9).

«Воениздат» выдаў першую кнігу «Незабываемых дней» на пачатку 1953 г. накладам у 45 тысяч асобнікаў. Масавае выданне рамана выйшла крыху пазней, а ў 1954 г. «Незабываемые дни» вытрымалі яшчэ два перавыданні.

Па словах В. Тарсіса, усе ў «Воениздате» казалі, што гэта лепшая з ваенных кніг, сапраўдная народная эпапея. Ці не ў кожным лісце ён выказваў сваё захапленне раманам, пісаў М. Лынькову пра хвалебныя водгукі іншых людзей. Хваліў таксама «Воениздат» за якасную працу. Тады Валерый Якаўлевіч яшчэ не ведаў, з якімі цяжкасцямі давядзецца сутыкнуцца пры выданні перакладу другой кнігі.

На працягу некалькіх гадоў М. Лынькоў працаваў над другой часткай рамана. Пераклад яе В. Тарсіс завяршыў у 1957 г., а ў 1958, да 40-годдзя Савецкай Арміі, у «Воениздате» было запланавана яе выданне. Але па пэўных прычынах ні ў 1958, ні ў наступныя два гады выдавецтва кнігу не выпусціла. У В. Тарсіса была тэлефонная размова з І. Казловым, змест якой ён перадаў Міхасю Ціханавічу ў пісьме 1 красавіка 1960 г.: *«Этот мерзавец мне сказал на мою реплику о том, что рукопись у него лежит третий год, — что Воениздат не заключал с ним договора, а без денег он работать не мог. Какая подлая свинья! Я ему ответил, что стыдно ссылаться на такие мелочи, что так поступают люди, лишенные совести, а он мне опять спокойно возразил, что я, мол, напрасно волнуюсь, что всё это в порядке вещей ("Вы же знаете, что я всё делаю долго. Кстати, Михаил Тихонович ни в чем меня не упрекает, внимательно читает рукописи, которые я ему посылаю по частям, и спокойно ждет конца работы"). На это я ему ответил: "К сожалению, ангельская кротость таких золотых людей, как Михаил Тихонович, порождает гнусный произвол таких, как вы…"»* (ф. 191, воп. 1, адз. зах. 423, л. 7 адв.—8).



Тытульны ліст выдання 1953 г.

Сітуацыя ўскладнялася яшчэ тым, што ніякае іншае выдавецтва не магло выдаць кнігу, пакольки правам першага выпуску валодаў «Воениздат». Паход В. Тарсіса ў ЦК праблему не вырашыў. Там яму сказалі, што *«ЦК не может вмешиваться в дела Воениздата, поскольку Политуправление автономно и отдел культуры не может ему указывать. Во-вторых, …если бы шло дело о книге на тему сегодняшнего дня, то можно было бы параллельно выпустить, а книги исторические не так срочны»* (ф. 191, воп. 1, адз. зах. 422, л. 9 адв.—10). Тым часам заказы на «Незабываемые дни», па словах В. Тарсіса, перавышалі 200 тысяч асобнікаў.

### «ПАДАРУНАК» ЛЁСУ

Уся гэта гісторыя з выданнем перакладу другой кнігі «Векапомных дзён» адбілася на ўнутраным стане В. Тарсіса, спарадзіла ў яго душы буру негатыўных эмоцый. Ён адчуваў сваю віну перад М. Лыньковым, хоць на самай справе дапамагчы нічым не мог, і вельмі з-за гэтага перажываў. Вось найбольш паказальныя вытрымкі з яго лістоў:

*«Всё это так меня нервирует, что я не могу оправиться. Частенько целый день лежу на постели, и голова у меня кружится, разумеется, не от успехов. Наши издательства превратились в такие цитадели бюрократизма, что могут привести в отчаяние даже оптимистов, но я к ним не принадлежу»* (24.10.1958, ф. 191, воп. 1, адз. зах. 422, л. 10 адв.—11).

*«От сознания своего бессилия в борьбе с этими гнусными бюрократами, я так озлоблен, что не в состоянии мирно разговаривать со всей этой сволочью»* (08.01.1959, ф. 191, воп. 1, адз. зах. 422, л. 14 адв.).

*«Подлые чиновники унижают людей творческих, как им вздумается… Они даже не взглянули на оригинал Вашего романа, "редактировали", сглаживая своеобразие, лишь бы не попалось два раза "было" в соседних строках»* (20.12.1959, ф. 191, воп. 1, адз. зах. 422, л. 30 адв.—31).

У лістах В. Тарсіса пачынаюць дамінаваць сумны настрой, расчараванасць, прыгнечанасць. Яшчэ раней ён пісаў М. Лынькову, што перастаў верыць у чалавечнасць чалавецтва. Міхась Ціханавіч Лынькоў быў адным з нямногіх, каму ён мог адкрыць сваю душу.

Другая кніга «Незабываемых дней» убачыла свет толькі вясной 1961 г. Наступным крокам мусіла быць поўнае выданне рамана на рускай мове. Аднак падзеі набылі нечаканы паварот. 23 жніўня 1962 г. пасля публікацыі ў часопісе «Грани» аповесці «Сказание о синей мухе» В. Тарсіса змясцілі ў псіхіятрычную бальніцу, дзе ён прабыў сем месяцаў. Далей было выключэнне з КПСС і Саюза пісьменнікаў, пазбаўленне савецкага грамадзянства і выезд за мяжу без права вяртання ў СССР. «Векапомныя дні» ў перакладзе В. Тарсіса, зразумела, друкавацца больш не маглі. Так лёс «падарыў» Яўгену Мазалькову магчымасць зрабіць уласны пераклад эпапеі.

**Раман ДУБАШЫНСКІ,
кандыдат філалагічных навук, вядучы навуковы супрацоўнік БДАМЛМ**

**Фота з фондаў БДАМЛМ.**

***(Цытаты прыведзены на мове арыгінала.)***

# Цені пунцовых ветразяў




**Выдатна** справіўся з перакладчыцкай задачай Генадзь Аўласенка. Красавіцкі «Нёман» прэзентуе, а дакладней нават рэпрэзентуе, паэзію Людмілы Рублеўскай у рускамоўным гучанні. Здаецца, справа звыклая: па-руску на старонках «Нёмана» гучалі ці не ўсе паэты беларускамоўныя. Аднак тут ёсць нюанс: пачынала пісаць Людміла Рублеўская якраз па-руску. Знаёмства з Віктарам Шніпом у Літаратурным інстытуце Горкага стала пераломным момантам, па словах самой паэткі. І нёманская публікацыя — «І апошняга сна Атлантыды ніхто не адкрые» — можа разглядацца як альтэрнатыўная рэальнасць. Рэальнасць, у якой Людміла Рублеўская засталася рускамоўным паэтам, пры гэтым не адмовіўшыся ад улюбёнай тэмы: гістарычная мінуўшчына і яе сувязі з сучаснасцю. Сувязі гэтыя гучаць мінорнымі струнамі: на фоне гераічных продкаў сучасныя беларусы, прынамсі, большасць, выглядаюць гэткімі «хома балоцікус» (пра што можна пачытаць у аднайменным вершы ў той жа падборцы). Вядома, руская мова надае добра знаёмым вершам Людмілы Рублеўскай асаблівае гучанне: трошку халаднаватае, адстароненае, у такой версіі адчуваецца нейкая знарок падкрэсленая шляхотная поза аўтара. У арыгінале мяккая беларуская мова згладжвае гэты пафас, так што застаецца толькі абвостраны сум замест мажлівай ганарыстасці, выразнае слова — замест зладжанага радка. Зрэшты, быць можа, тут справа і ў звычцы, і некаму перакладныя вершы Рублеўскай прыйдуцца больш да душы, чымся беларускія арыгіналы.

**Сумніўным** падаецца адно з мастацкіх рашэнняў, абраных Аленай Паповай у рамане-казцы «Ягоша і маленькія, маленькія матылькі...». Так, размова ідзе пра чалавека, ціхага абывацеля, які ўсё ж адчуваў непаўнату свайго жыцця. І вось яму надарылася пазнаёміцца са сваім анёламахоўнікам... Алена Папова прытрымліваецца звыклага для яе псеўданаіўнага стылю, дзе апавяданне падаецца вачыма галоўнага героя, які застаецца вялікім дзіцём. Пачатак рамана-казкі асабліва паказальны: дзяцінства і дарослае жыццё апісваюцца аднымі і тымі ж сродкамі, адным і тым жа простым тонам, што падкрэслівае кранальную інфантыльнасць героя — і прыхаваную інфантыльнасць чалавецтва ў цэлым. Суладны аповед парушае раптам узніклы анёл Міша. Алена Папова абрала для яго яркія, кантрасныя фарбы, так што ўрэшце замест прыгажуна з белымі крыламі чытач бачыць панкаватага хлопца, якому нішто чалавечае не чужое. І вось тут аўтар не дацягнула: каб сапраўды атрымаўся нечаканы, ашаламляльны вобраз, варта было дадаць экспрэсіі ў паводзіны анёла, зрабіць мову яго адметнай, быць можа, алагічнай. Але ў выніку атрымаўся недаанёл-недахуліган. Не вераш апавядальніку. Не вераш у натуральнасць прыроды аднаго з галоўных герояў. Цікавы ў цэлым твор моцна пацярпеў праз гэты недагляд.

**На суд чытача** прапануем дакументальную аповесць Уладзіміра Арлова «У цені пунцовых ветразяў». Знакаміты рэжысёр, як можна было здагадацца, зноў звяртаецца да свайго кінамінулага. Фармальна ён распавядае пра здымкі фільма, прысвечанага Алкясандру Грыну. Але насамрэч аповед ахоплівае бясконцую-бясконцую тэму — жыццё чалавека, улюбёнага ў сваю справу, у мора, уласна ў жыццё, у рэшце рэшт. Нягледзячы на дакументальную падаснову, чытаецца аповесць лёгка, як фрагмент аднаго вялікага рамана, прысвечанага Чалавеку. Дасягаецца гэта тонкім адчуваннем асобы, мудрасцю, здабытай праз гады, якія ёсць у аўтара.

***

**Выдатна.** «Хадзіць па зямлі, прагнуць неба...» — пад гэтай назвай перакладчык Сяргей Сцяпан прапануе нізку вершаў вядомага польскага паэта Юльяна Тувіма. Думаць пра высокае і складанае — лёс большасці творцаў, але ў публікацыі Сяргея Сцяпана, як і ў вершаванай падборцы Васіля Зуёнка, найлепшымі падаюцца вершы пра «зямное» — пра птушак і аленяў, пра траву і крыніцы, а насамрэч пра харaство і веліч прыроды, пра яе бязмежную вабнасць. Некалькі вершаў Васіля Васільевіча, якія паўстаюць абагульненнем важкага жыццёвага досведу, будуць добрай парадай у час, калі бракуе разважлівасці і спакою, а будзённыя справы падаюцца занадта істотнымі.




**Сумніўна.** З празаічных твораў гэтага нумара вылучаецца аповесць Васіля Макарэвіча — найперш сваімі станоўчымі якасцямі, хаця і без сумніўных момантаў не абыходзіцца. Пяць гісторый пра балоты ды журавіны, успаміны пра спрытную рухавую бабулю — гэта вяртанне ў даўнейшую вёску, адметнае яркімі апісаннямі прыроды, жывой дасціпнай мовай, сустрэчамі з каларытнымі героямі. Аднак першая частка, прысвечаная ваеннаму часу, падаецца зацягнутай — 17 старонак з 40! Вядома, на тэму «Вайна і вёска» беларускія пісьменнікі напісалі нямала, і аўтар, валодаючы матэрыялам, пачуваўся ўпэўнена. Тым не менш дыялогі і некаторыя эпізоды здаюцца надта доўгімі, і нават калі ўспаміны ды гістарычныя звесткі вельмі каштоўныя для пісьменніка, першую частку, верагодна, можна было скараціць да кароткай навелы. Тэма савецкага гаспадарання, якая раскрываецца ў трэцяй частцы, падаецца не менш цікавай — і трэба думаць, што Васіль Макарэвіч мае ў запасе яшчэ багата назіранняў і ўспамінаў.

**На суд чытача.** У гэтым нумары адкрываецца новая рубрыка «Кніга_Log», задуманая як «музей найноўшай гуманітарыстыкі», дзе будзе аналізавацца фарміраванне найноўшай нацыянальнай гуманітарнай прасторы. Першай публікацыяй рубрыкі стала рэцэнзія Ірыны Шаўляковай-Барзенка на манаграфію Анжэлы Мельнікавай «Нацыянальна-светапоглядныя каардынаты беларускай літаратуры першай трэці ХХ стагоддзя». Даследчыца прадэманстравала, што рэцэнзія на навуковае выданне можа быць захапляльным інтэлектуальным трылерам — і «Кніга_Log» чакае аўтараў, гатовых ісці гэтым шляхам.

***

**Выдатна,** што красавіцкая «Маладосць» атрымалася змястоўнай і разнастайнай: і проза (К. Мядзведзева, В. Гапееў), і паэзія (Зм. Крэс), і літаратуразнаўства (Ю. Пацюпа)… Нават самы спрэчны і нераўнамерны паводле глыбіні аўтарскіх разважанняў раздзел публіцыстыкі гэтым разам атрымаўся цікавым.




Даўно не навіна, што надзвычай арыгінальныя і гарманічныя ў стылёвым сэнсе творы пішуць непрафесійныя літаратары. Магчыма, таму, што, жывучы ў іншым атачэнні, давяраюць выключна ўласнай творчай інтуіцыі, а не творчым аўтарытэтам. Гаворка пра паэтычную падборку ўрача-ангіяхірурга Зміцера Крэса «Вялесава племя». Вядома, зварот да гістарычна-патрыятычнай тэматыкі — прадказальна-заканамерная з'ява для чалавека, повязі якога з беларускай культурай абумоўленыя цікавасцю да свайго радаводу, некаторыя радкі гучаць напаўзабытым надакучлівым рэхам адраджэнцкай паэзіі 1980-х. Аднак па іншых вершах, дзе лірычны герой звяртаецца да сучаснасці, відаць, што «Маладосць» прадстаўляе сваім чытачам моцнага паэта, які даволі ўпэўнена пачуваецца ў розных вершаваных формах.

Удалым стаўся і паэтычны дэбют Кацярыны Нарваткінай. Большасць з прадстаўленых у нізцы «Верасовы звон» вершаў, безумоўна, заслугоўвае ўвагі. Магчыма, паэтэсе варта выйсці за межы лірыкі кахання, бо ўжо цяпер можна заўважыць небяспеку павярхоўнай рамантызацыі.

**Сумніўна,** што аўтару беларускай фантастычнай прозы варта капіяваць сюжэты галівудскіх фільмаў пра здзяйсненне навуковай місіі на іншых планетах. У фантастычным апавяданні Юліі Кісель з такой беларускай назвай «Знічка» так многа Браўнаў, Эліс, Рояў, Рональдаў, Стэнаў, што гэткае галівудскае дэжавю не пакідае падчас чытання ні на хвілю.

Асобна варта адзначыць публікацыю Алеся Сушы «Статут ВКЛ у кантэксце кніжнай культуры Беларусі», прысвечаную недастатковай вывучанасці аднаго з самых галоўных дакументаў у нашай гісторыі менавіта з пункту гледжання кнігазнаўчых і кнігавыдавецкіх аспектаў.

**На суд чытача** прадстаўлена даволі вялікая падборка матэрыялаў «Толкін і К°», прысвечаная біяграфіі і творчасці знакамітага пісьменніка. Ёсць спадзеў, што тая аўдыторыя, на якую арыентаваліся аўтары, з удзячнасцю адгукнецца на публікацыю.

**Наста Грышчук,**
**Алеся ЛАПІЦКАЯ,**
**Жана КАПУСТА**

*Надрукавана ў «Полымі»*

## Патрапіць да Ажэшкі

Класіка — рэч інтрыгоўная, таму жаданне ўдакладніць акалічнасці жыцця і творчасці ўлюбёнага аўтара можа прывесці не толькі ў бібліятэку, але і ў невялічкую беларускую вёску, дзе колькі гадоў таму адбываліся цікавыя падзеі... У трэцім і чацвёртым нумарах «Полымя» чытач мае магчымасць далучыцца да экспедыцыі Святланы Воцінавай, якая даследавала мясціны летняга адпачынку Элізы Ажэшкі, каб на свае вочы ўбачыць, пра што пісала славутая пісьменніца і распытаць пра шматлікія дэталі яе бытавання ў Мастоўскім раёне Гродзенскай вобласці.

Менавіта ў Мінявічах — адной з тутэйшых вёсак, дзе часта спынялася Эліза, — адбылося балючае расчараванне пісьменніцы ў стасунках са Станіславам Нагорным. Праўда, праз дзясятак гадоў Эліза і Станіслаў пабраліся шлюбам, а паколькі ад жыццёвых нягодаў пісьменніца ратавалася творчай працай і ліставаннем з сябрамі, сённяшні чытач можа высветліць шмат цікавага з гісторыі вёсак Мінявічы, Багатырэвічы, Глядавічы і Паніжаны.

Першачарговая мэта «Вандровак па яе былых ваколіцах» — «пашукаць у памяці сучасных жыхароў мясцовасці (а таксама на старых вясковых могілках) сляды людзей, якія ведалі пані Элізу і якіх сама яна згадвала ў серыі нарысаў "Людзі і кветкі…"». Менавіта гэты нарыс звязвае літаратурнае падарожжа Святланы Воцінавай і колішнія вакацыі Элізы Ажэшкі і дазваляе адшукаць некалькі часавых парталаў, а таксама разгледзець цікавыя фотаздымкі, даведацца пра загадкавыя расліны Гарадзеншчыны, пачуць, як сучасныя наднёманскія сяляне распавядаюць пра пані Ажэшчыху, і высветліць, якія культурныя помнікі можна наведаць тут падчас уласнай вандроўкі.

Святлана Воцінава — чалавек актыўны, бадзёры і нават да непаразуменняў накшталт фатальнай памылкі сіноптыкаў ставіцца надзвычай спакойна. Адзінае, што выклікае гаркоту падарожніцы, — што многія часавыя парталы назаўсёды зачыненыя, абвальваюцца ў бясконцым чаканні даследчыкаў. Размова, вядома, пра людзей, якія маглі б багата ўзгадаць пра значных асобаў, але сышлі ў лепшы свет, не сустрэўшы захопленага аматара, які занатаваў бы іх расповеды. Зрэшты, станоўчая энергетыка аўтаркі натхняе даследаваць, вывучаць, звяртацца да класікі, рабіць інтэрв'ю — і ўжо дзеля гэтага «Вандроўку па яе былых ваколіцах» варта чытаць і адначасна планаваць уласныя росшукі!

**Алеся ЛАПІЦКАЯ**

# ЗАЛАТЫЯ ГАДЫ БЕЛАРУСКАЙ ПАЭЗІІ

Пабачыў свет 13 том «Залатой калекцыі беларускай літаратуры», куды ўвайшлі творы Уладзіміра Дубоўкі, Уладзіміра Жылкі, Язэпа Пушчы. Складальнікам і каментатарам тома выступіла выдатная знаўца беларускай паэзіі, адна з найлепшых спецыялістаў па літаратуры першай траціны XX стагоддзя, паэтэса і даследчыца Ірына Багдановіч.

Гэты том калекцыі не толькі прадставіў лепшае з творчасці сапраўдных лідараў літаратурнага працэсу дваццатых гадоў мінулага стагоддзя, але і новы навуковы спосаб рэпрэзентацыі творчай спадчыны.

Калі паслядоўна адкрываеш усе тры раздзелы, дзе змешчаныя творы выбітных прадстаўнікоў беларускай літаратуры, то міжволі звяртаеш увагу на даты пад вершамі класікаў — 1921, 1922, 1923 год. Складваецца ўражанне, што менавіта гэтыя тры гады сталі сапраўды залатымі для гісторыі беларускай літаратуры. І натуральна ўзнікае пытанне: з чым уласна звязаны трыумф паэтычнага слова менавіта ў гэты перыяд?

Адказаў, відавочна, можа быць некалькі… Але галоўнае, відаць, тут тое, што згаданыя гады былі часам доўгачаканага адпачынку пасля разбуральных гістарычных падзей (сусветнай вайны, сацыяльных рэвалюцый, тэрытарыяльных падзелаў), якія, па сутнасці, абнулілі мастацкую інерцыю папярэдняга перыяду. Нараканні на цяжкую долю селяніна, скаргі на няўдзячны лёс і адчуванне сябе ахвярай абставінаў, усё тое, што вобразна можна было б акрэсліць як «песні жальбы», імкліва сыходзіла ў нябыт як неадпаведнае самому духу эпохі.

«Смерць інерцыі» дае творцам унікальную магчымасць абнавіць мову, а разам з ёю і рытміку, і вобразнае мысленне. Змяняецца не толькі агульны пафас творчасці, у якую, нарэшце, прыходзіць адчуванне радасці, паўнаты жыцця, маладосці, усведамленне маштабнасці перамен. Літаратура ва ўмовах новай сацыяльнай рэальнасці стварае новую канцэпцыю свету і чалавека ў ім, канструе новыя, адпаведныя патрабаванням часу, узоры мастацкага пісьма.

Так, у вершы, які адкрывае цыкл «На чужыне», Уладзімір Дубоўка палемічна адстойвае свае права на паветрана-паэтычнае жыццё насуперак абставінам лёсу.

*Ты дэкляруеш мне долю і волю?*
*Мне на чужой старане трэ палацы?*
*Ты мне гаворыш, што злёт груганоў*
*знішчыў мой край, смерць гнязло*
*там звіла?..*
*Бедны ён? Пушчы? Балоты? Каменне?*
*Стонець народ пад*
*пятой-жыцця-ката? —*
*Годзе! Чакаю я толькі той дзень,*
*сталлю калі акуецца рука!*
*Вецер! Мой вольны браточак ты вецер!*
*Крылле мне!.. Крылле сваё ты*
*пазычыш?! —*
*Я паляту, паляту… Хай жывець*
*Край сасонак, кляноў і лазы!*
*Дам тым вадзіцы, што б'юцца*
*за шчасце,*
*тых пракляну, што нам Юдамі сталі…*
*Прыйдзе наш час, прыйдзе наш час!*
*Вецер! Мой любы! —*
*Чакаюць там нас…*

Практычна аналагічнае супрацьстаўленне старога і новага, балотнай плесні і ветру над полем сустракаем у вершы Уладзіміра Жылкі "Я грамнічная свечка перад Богам». Абодва паэты ў гэты час, дарэчы, жылі не ў Беларусі, таму пачуццё радзімы ў іх было абвостранае і праз асабістыя абставіны. Але гэта прынцыпова іншая Бацькаўшчына, чым у іх літаратурных папярэднікаў! Нездарма сваё палымяна-палемічнае эсэ «Крыўя» Жылка пачынае з заўвагі, што тэма Бацькаўшчыны «можа быць вырашана толькі ў плоскасці сэрца і волі», бо Бацькаўшчына — «музыка, гама гукаў, свету, колераў і пахаў (абавязкова пахаў!), адчутая, адбітая і прынятая сэрцам».

Гэтае ўдакладненне, па сутнасці, тлумачыць асноўны паэтычны мэсэдж беларускай паэзіі гэтага часу, і ў прыватнасці гэтых трох паэтаў, якіх пазней абвінавацілі не толькі ў нацыянал-дэмакратызме, але і ў дэкадэншчыне. Без «Крыўі» і іншых крытычных і празаічных твораў, якія ўвайшлі ў гэты том «Залатой калекцыі», было б складана зразумець і творчыя *credo* трох самабытных літаратараў і, тым больш, адчуць спецыфічную атмасферу, у якой нараджаліся іх вершы.

Як сапраўдныя неарамантыкі, Ул. Дубоўка, Ул. Жылка, Я. Пушча бунтуюць супраць мастацкай інерцыі нядаўняга мінулага, вылучаюць для сябе новыя творчыя аўтарытэты і разам з тым адстойваюць сваё права пісаць пра тое, што іх сапраўды хвалюе, у тым ліку пра асабістыя пачуцці. І хоць у беларускай літаратуразнаўчай традыцыі не прынята многа гаварыць пра тагачасныя беларускі сімвалізм, акмеізм, футурызм, імажынізм, росквіт якіх прыйшоўся на гэтае ж яскравае трохгоддзе, зразумела, што гэтыя плыні таксама маюць для беларускай літаратуры вялікае эстэтычнае значэнне, яскравым доказам чаго з'яўляецца выхад менавіта гэтага тома «Залатой калекцыі».

Той факт, што плыні гэтыя ў нас не моцна даследаваліся, звязаны і з асабістым трагічным лёсам паэтаў, і з тым, што ў беларускага чытача не было магчымасці чытаць іх творы ў арыгінальнай аўтарскай рэдакцыі, бо за савецкім часам яны падвергліся бязлітасным праўкам, якія часцяком змянялі не толькі асобныя словы і радкі, але і агульны змест твора. Таму пры складанні 13-га тома «Залатой калекцыі беларускай літаратуры» выкарысталі тэксталагічны падыход, калі за аснову тэксту браліся аўтэнтычныя выданні 1920-х гадоў. Такі падыход стаў неабходным яшчэ і таму, што ў выданнях пазнейшых гадоў, акрамя рэдактарскіх парушэнняў аўтарскай волі, хапала і ўласна пісьменніцкіх самамістыфікацый, калі вершы ранейшага перыяду няшчадна перапрацоўваліся, часцяком з істотнымі зменамі першапачатковай творчай задумы ці, наогул, свядома датаваліся іншым часам. Так, Ул. Дубоўка, да непазнавальнасці перапрацоўваў вершы часоў маладосці ў 1950 — 1960-х, датаваў іх 1920-мі гадамі, што, несумненна, дадало працы ўкладальніцы тома.

Даследчыцы, відавочна, было важна не толькі адабраць лепшае з лепшага, але і ўзнавіць творчую атмасферу тых сапраўды залатых гадоў. І. Багдановіч выступае ў гэтым выпадку нават не столькі ўкладальнікам і каментатарам, колькі *рэканструктарам паэтычнага духу.* І тут маюць значэнне не толькі досвед гісторыка літаратуры і архівіста, але і ўласна густ паэта, як, напрыклад, у тым выпадку, калі І. Багдановіч становіцца на бок рэдактараў, а не аўтараў. Напрыклад, у вершы «Бяспынна, глуха процьма часу…» Ул. Жылкі ўкладальніца пакідае выпраўлены рэдактарам А. Луцкевічам радок «Адзначыў свежае дзярно…», не пагаджаючыся з аргументамі паэта, які свядома ўжываў слова «дзярмо» ў значэнні «дзёран», матывуючы гэта тым, што так ён «чуў на Навагрудчыне». Падалося апраўданым захаваць і некаторыя праўкі А. Адамовіча да Жылкавых «Вершаў спадзявання». Наогул, праца з вершамі Ул. Жылкі вымагала асобнай даследчыцкай увагі хаця б таму, што сам паэт сышоў з жыцця вельмі рана і ў адрозненне ад сваіх калег не мог парупіцца пра сваю паэтычную спадчыну. І хоць многае для яе ўзнаўлення зрабілі Ул. Калеснік і М. Скобла, І. Багдановіч, засталося яшчэ вялікае поле дзейнасці. Так, упершыню ў разглядыным выданні «Залатой калекцыі» цалкам друкуецца верш «Праметэй», удакладняюцца даты напісання паасобных вершаў, уносяцца папраўкі ў раней апублікаваныя творы (напрыклад, «Вершы аб Вільні», «Экспрэс», «Віно звініць» і інш.). Усё гэта






Уладзімір Дубоўка.



Уладзімір Жылка.



Язэп Пушча.

стала магчымым дзякуючы працы ўкладальніцы з аўтографамі паэта, якія захоўваюцца ў аддзеле рукапісаў Бібліятэкі імя Урублеўскіх Акадэміі навук Літвы ў Вільнюсе.

Што датычыць твораў Ул. Дубоўкі і Я. Пушчы, то тут даследчыцы давялося праявіць у пэўным сэнсе і навуковую волю, і скарыстаць уласную творчую інтуіцыю, выбіраючы варыянт, які найбольш адпавядаў духу эпохі. Напрыклад, у выпадку з паэмай «Штурмуйце будучыні аванпосты» Ул. Дубоўкі, машынапісны варыянт якой адшукаўся ў Беларускім дзяржаўным архіве-музеі літаратуры і мастацтва ў асабістым фондзе Л. Бэндэ, за аснову ўзятая пазнейшая аўтарская рэдакцыя, аднак найбольш адметныя фрагменты ранейшых рэдакцый змясціліся ў каментарах.

У выпадку з вершам «Раніца», які адкрывае раздзел твораў Я. Пушчы, наадварот, была выбраная першая рэдакцыя твора, якая дае адчуць, што паэт быў сапраўдным імажыністам. Для параўнання: у пушчынскай кнізе «Вершы і паэмы» (1960) чытаем з пазнакай «1923»:

*Бярозка усміхаецца,*
*Цалуючы прамень.*
*Умыўшы шчокі раніцы,*
*На сіні выган*
*Выганяе*
*Сонца пасвіць дзень.*
*Плаксівую смугу*
*Памялом*
*Змяло.*
*І сонца па шляху*
*Пабегла у сяло.*
*З сявенькай працы на плячах*
*Ратай яго спаткаў.*
*Уцеха сонца у вачах*
*І ў росах*
*Кожнага лістка.*
*Падшывалец-вецер*
*Лапоча у лістве:*
*Радзіме сонца свеціць,*
*І жыць на свеце*
*З сонцам нам лацвей.*

Гэты ж аптымістычна-бравурны тэкст бачым мы і ў іншых друкаваных і электронных выданнях, менавіта ён стаў хрэстаматыйным. Між тым «Раніца» першапачаткова выглядала зусім па-іншаму і прадстаўляла Я. Пушчу як імажыніста, не горшага за любімага ім С. Ясеніна. Адмыслова цалкам працытуем той жа верш і ў першай аўтарскай рэдакцыі, каб прадэманстраваць, як можна з паэтычнага твора цалкам выкінуць нават не слова, а стрыжнявы вобраз:

*У сутонні п'яніцай*
*Хістаецца пад плотам цень*
*Умыўшыся яркай раніцай,*
*на сіні выган*
*выганяе*
*сонца пасвіць дзень.*
*Плаксівую смугу*
*Памялом змяло,*
*І промень сонца на шляху*
*Пабег у сутулае сяло.*
*З сявенькай працы на плячох*
*Ратай спаткаў яго,*
*Уцеха хлынула з вачэй*
*І гойснула ў сінь бягом.*
*Падшывалец-вецер*
*Лапоча песняй у лістве:*
*Разбіўся мутны вечар*
*Аб сонца ў сіняве!*

Можна толькі ўявіць, які боль прыносілі такія праўкі эстэту Я. Пушчу, аўтару грунтоўнага артыкула «Вобраз у беларускай паэзіі», дзе аглядалася гісторыя беларускай паэтычнай вобразнасці ад фальклору да сярэдзіны дваццатых. (Артыкул гэты, між іншым, меў характар дыскусійны, у прыватнасці, аўтар пісаў у ім пра другаснае значэнне вобраза ў творчасці сваіх папярэднікаў Якуба Коласа і Янкі Купалы.)

Такія выпадкі дапамагаюць зразумець, куды ж падзяваліся беларускія імажыністы, сімвалісты, акмеісты, футурысты. Менавіта для ўзнаўлення эстэтычных прыярытэтаў пачатку 1920-х гадоў і патрэбна было новае выданне твораў Ул. Дубоўкі, Ул. Жылкі, Я. Пушчы, і прыменены тэксталагічны падыход, які патрабаваў шмат гадоў. Уласна кажучы, 13-ты том «Залатой калекцыі» ўнікальны тым, што ён адначасова з'яўляецца і мастацкім выданнем, разлічаным на шараговага беларускага чытача, і ў той жа час — паўнавартасным навуковым выданнем, якое ў многім ламае звыклыя стэрэатыпы.

Гэты том стаў нечым большым, чым проста кнігай з серыі. Гэта яшчэ і напамін пра людзей, забытых сучаснікамі, але вельмі важных для інтэлігенцыі 20-х… Такой была, напрыклад, сястра Максіма і Гаўрылы Гарэцкіх Ганна, светлай памяці якой была прысвечаная першая кніга Ул. Дубоўкі «Строма».

Гэта і ўрок таго, як трэба выказваць удзячнасць сваім калегам і папярэднікам, якія працавалі над рукапісамі нашых класікаў раней, сярод якіх асобна хочацца вылучыць Л. Мазанік.

Гэта і ўскосны зварот да тых, хто працуе сёння з мастацкім словам, — карэктараў, рэдактараў, выдаўцоў: «Лягчэй! Вы не богі!» Не пазбаўце ж нас у сваім працоўным ірвенні новых Дубовак, Жылак і Пушчаў, каб не даводзілася некаму пазней узнаўляць старыя электронныя носьбіты ў пошуках сапраўднага, годнага, вечнага.

**Ганна КІСЛІЦЫНА**

## Ігар ПРАКАПОВІЧ



***

Усё ярчэй чырвонае святло.
Ды не трэба паласа разметкі,
Бо шлях пялёсткамі суцэльна замяло.
Пялёсткамі, што раскідалі кветкі.

І той дарогай цяжка так ісці,
Нагамі трушчыць водар, фарбы, колер.
І разумець, што болей у жыцці
Не будзеш мець такога аніколі.

У кветак пах — кружыцца галава.
Пялёсткаў вэлюм сыплецца пад ногі.
А далячынь — чырвоная смуга,
Ну а за ёй ужо няма дарогі…

***

Халодная жоўтая поўня
Плыла над заснулай зямлёю.
Прастора была як лядоўня
У снежным бязгучным спакоі.
А нехта ў тузе адзіноты
Амаль вар'яцеў ад жадання.
Хацелася толькі пяшчоты,
Хацелася толькі спаткання.

А поўня плыла, як у лёдзе,
Між зорак дрыготка-халодных
З пустэчай сваёю ў згодзе
Без блізкіх, каханых і родных.

А нехта не мог адагрэцца
Ля печкі, дзе дровы палалі.
Бо холад ахоплівае сэрца,
Бо сэрца нідзе не чакалі…

***

Вясна прыйшла ўладарна, жвава,
Ды нешта раптам схаладнела.
На небе — змрочных хмар аблава,
І сум бясконцы ў нетрах цела.

І невыказны цень трывогі
Мільгае зданню па пакоях.
Душу пужае стан аблогі
У прадчуваннях сноў і мрояў.

А трэба жыць... Куды схавацца?
Дзе адшукаць душы прытулак?
Напэўна, лёс усё ж туляцца
У лабірынтах сноў і думак.

Ды што рабіць?... Цяпла чакаю.
Гляджу на змрочных хмар аблогу.
Я пасвятлею. Акрыяю.
Вось толькі памалюся Богу...

## Людка СІЛЬНОВА



### Зменлівае надвор'е

Якое зменлівае, рознае надвор'е!
Як пышны ўзор усім нам. Як сузор'е
Буйных і дробных зорак. У суладдзі:
Як ёсць Мядзведзіца!
Якую можна гладзіць
На зорнай карце — лакавай цыраце —
Рукою ціхага, пужлівага дзіцяці…

### Чырвоны шарык

На галінах, пакрытых наледдзю,
Затрымаўся чырвоны шарык.

А навокал — снягі пушыстыя;
Дрэвы белыя, серабрыстыя;
Чорны бумер і статак шэрых,
Як авечкі, аўто здранцвелых…

Гэта двор мой, што — раз! — і ўбачылі
Мае вочы, зялёныя, бабчыны,

Познім ранкам аднойчы студзеньскім
Праз акно паэтычнай куханькі.

### Дзяўчына-вясна

Памыю пліту і зготую гарбаты…
Куды мне падзець горб узросту
праклятага?

Хачу, каб узрост мой на трыццаць
паменшаў
Гадоў: адчуваю сябе — маладзейшай!
Мне толькі што дваццаць. Няхай
дваццаць восем.
Дзяўчына-вясна, а не грозная восень…
Я сёння адсуну ад сподачка ўбок —
Дзяўчынай! — салодкі мучны піражок.

### Марскі эцюд

Блакітнае неба. Блакітнае мора.
А паміж імі — пунсовае сонца паэзіі…

Зліецца неба ў адно з морам.
А сонца гарыць — яркай кропкай,
цудоўна, гарэзліва!

## Серафіма БЕСТАВА



### Журба

О, родны край, ты столькі страціў!
Пад абеліскамі сыны.
Бяда крычала ў кожнай хаце,
У кожнай з іх — сляды вайны.

Сыноў не прычакалі маці.
Дачасна пасівелі ўдовы.
А колькі светлых мар пра шчасце
Загінула ў вайне суровай!

Тых бед і страт не пералічыш,
Дый слёзак не сабраць сірочых.
Палын расце на папялішчах.
Журба нам засціле вочы.

### Незабыўнае

Па вясне белапенныя вішні
Сваёй квеценню хаты атуляць.
Горкай долі вайны залішне
Паспыталі нашы матулі…

І з гадамі ім не забыцца:
Дымам чорным засцелена неба.
Дзеці тузаюць за спадніцы,
Плачуць голасна: «Хочам хлеба!»

На збялелых шчочках — слязінкі,
Глянеш — сэрца ад болю рвецца...
І ніводнай у хаце скарынкі,
Ні зярнятка ў падмеценай клеці.

Не, ніколі ім не забыцца,
Як сушылі на хлеб лебяду.
Як дадому чакалі кармільцаў —
Сустракалі ж адно бяду.

### Доўг

Не я. Яны далі прысягу:
Загінем — край не аддадзім!
Не мне «За доблесць і адвагу»
Медаль прышпільваў камандзір.

У тыя грозныя гадзіны
Ў калысцы спала немаўля…
Як вінна я табе, Радзіма!
Як вінна я табе, зямля!

***

Яны стрэліся ў твар з вайною,
У бой пайшлі ад парогаў родных.
Бо жылі ўсе думкай адною —
Каб Радзіма была свабоднай.

Хто пад Брэстам, а хто пад Масквою,
Хто на Волзе, а хто ля Дзвіны,
Пагасілі сваёй крывёю
Злое полымя лютай вайны.

Каб устаць ім з зямлі шматпакутнай,
Можна б столькі пабачыць, пачуць.
Як грымяць у іх гонар салюты
І як песні пра іх пяюць.

Колькі год з той пары ні мінецца,
Ды нішто і ніхто не забыты.
Хай заўсёды вярэдзіць нам сэрцы
Попел тых, хто згарэў у бітвах.



Фота Кастуся Дробава.

## Рагнед МАЛАХОЎСКІ



### ВАЛУНЫ

***

Пасадзіў лес,
выгадаваў трох сыноў,
пабудаваў асабнячок над возерам…
А памятаеш,
бегалі ў гай бярозавы…
Час незваротна мінуў,
калі называла мяне
ветраным і несур'ёзным.

***

Плывуць у мярэжы вангоры.
Счарнелая вяндлярня
сустрэне іх
едкім дымам
і ўрачыстымі стрэламі
маладога ядлоўцу.

***

Маё дзяцінства
хрумсцела не чыпсамі за шчакой,
а скарынкай крохкага лёду
над баязлівым боцікам.
І хрумст гэты
слухалі снегіры…

***

Салодкая пакута.
У лазні на ўскрайку вёскі
паспытаў бярозавай кашы,
запіўшы гарбатай
з малінавым сочывам.

***

Называў цябе кацяняткам…
Не таму,
што была падобнай.
Проста хацеў
бачыць цябе
такой жа пяшчотнай
і паслухмянай.

# ПАШТОЎКА

*Апавяданне*

Генадзь ПЯСЧАНСКІ



Пасля дажджу зноў разгараецца сонца і зазірае нават у зямлянкі, дзе салдаты пасля дарогі леглі крыху падрамаць. Хай свішчуць снарады, хай стогнуць і выюць міны, хай лятае абрыдлая «рама», шукаючы, як каршун, здабычу, — салдаты ўсё роўна не прачнуцца: яны адпачываюць…

Час, аднак, уставаць. Толькі што ўсе шумна дыхалі, гаварылі ў сне і храплі, але варта аднаму расплюшчыць вочы, як штосьці парушалася ў мерным храпе зямлянкі, нары зноў пачыналі варушыцца і ажываць.

Хтосьці, толькі прачнуўшыся, цягнецца да алюмініевай біклагі, узбоўтвае: ці застаўся глыточак?

Хуцэнка шукае свае абмоткі. Гэта яго пастаянны занятак: не можа, бачыце, спаць, як усе, у чаравіках.

Хуцэнка прачнуўся рана і пачаў пісаць чарговы запыт у чарговую інстанцыю. «Ці невядома вам месцапражыванне Матроны Іванаўны Хуцэнка, маёй жонкі?»

Пошукамі жонкі ён заклапочаны даўно. Спачатку хлопцы пасмейваліся, потым перасталі, звыкліся, але прazвалі яго «Матрона, адгукніся…»

Да зямлянкі пад'ехаў генеральскі віліс, з яго выйшаў Рыгор Гузак, шафёр генерала, і рушыў да бочкі з палівам: даехаў сюды без бензіну, на адным энтузіязме. Усю ноч генерал аглядаў палкі, батальёны і роты, правяраючы гатоўнасць да апошняга штурму Берліна.

Слава генерала Пячуркіна пачалася на Хасане, дзе Мікалай Аляксеевіч, тады маёр, паказаў праціўніку сілу савецкага танка. Але і цяпер, праз столькі гадоў, у флагманскай «трыццацьчацвёрцы» ён часта вырываецца ўперад і паліве фрыцаў агнём. Ветэраны корпуса акружаюць генеральскі віліс і чакаюць генерала — ён у зямлянцы маёра Сіняўца.

Рыгор Гузак заўсёды папярэджвае таварышаў: прыкусіць ніжнюю губу, міргне правым вокам — значыць, хавайся, хлопцы, начальства ідзе.

Танкісты выраўняліся па стойцы «смірна», генерал аглядзеў іх, затрымаўся поглядам на Хуцэнку:

— У мяне для цябе падарунак… Дай жа мне, Гузак, торбу.

Генерал дастаў з планшэта паштоўку.

— Трымай, — падаў Хуценку, — гэта ўжо не адпіска, гэта ад тваёй Матроны, — адгукнулася ўсё-такі…

Танкісты нягучна рассмяяліся: «Генерал жартуе. Напэўна, чарговы адказ з чарговай інстанцыі». Але генерал не жартаваў — строгі яго пагляд пагасіў смяшкі.

Пакуль Хуцэнка наважваўся раскрыць паштоўку, хлопцы ўжо акружылі сябра цесным колам: цікава, як паштоўка апынулася ў генерала?..

Гузак быццам прадбачыў іх думкі:

— Вельмі проста: Хуцэнка шукае Матрону, а Матрона шукае яго. Такое вяселле хіба згуляеш без шлюбу?..

З зямлянкі выйшла дачка Пячуркіна — Вольга. Яна радыстка. Ну, можа, не зусім звычайная, усё-такі генеральская дачка, але Волечка не задаецца, не задзірае кірпаты нос.

— Дык што піша Матрона? — не супакойваліся танкісты, даймаючы Хуцэнку.

Гузака ж цікавіў не змест паштоўкі, а сама паштоўка: на ёй адлюстраваны яго любімы палкаводзец Сувораў, з адкрытым тварам і добрымі вачыма…

Прысеўшы на кукішкі, Гузак падумаў: «Як паштоўка гэтая, выдадзеная яшчэ да вайны, уцалела і трапіла ў рукі Матроны, а як яе прыйшла сюды, пад самы Берлін?»



Была б гэта звычайная паштоўка, атрыманая кім-небудзь з хлопцаў, Гузак папрасіў бы падараваць яе яму, але ў Хуцэнкі гэтую дарагую, доўгачаканую вестачку ён папрасіць не мог, ды і не дасць яе Хуцэнка. Застаецца толькі адно... Гузак глянуў на Хуцэнку:

— Пеця, я потым перамалюю гэты партрэт. Добра?

— Добра, — машынальна ківае Хуцэнка, і позірк яго зноў прыкоўваецца да паштоўкі Матроны са словамі: «Пецечка, дарагі, адгукніся»…

Добрыя перажыванні прынёс генерал. Клапаціцца за падначаленых — абавязак Мікалая Аляксеевіча. Вось ён ужо імчыцца ў сваім вілісе ў суседнюю, з правага фланга, дывізію — яны разам выйдуць у прарыў. І, як часта ў свабодныя хвіліны, думае пра дачку, пра Волечку.

Мікалай Аляксеевіч не шкадаваў і не шкадуе, што Вольга з ім на фронце. З якой цяжкасцю ён знайшоў яе, бо яна без весткі прапала ў першыя дні вайны на дымных дарогах Беларусі.

Генерал рана аўдавеў, сам выгадаваў дачку і любіў яе непамерна. Вольга — добрая дачка. Нічога благога Мікалай Аляксеевіч за Волечкай не заўважаў. Мужчыны яе, дзякаваць богу, пакуль не цікавяць. Вось толькі апошні час яна пасябравала з яго шафёрам, Рыгорам Гузаком. Але нічога ў гэтым кепскага няма. Мікалай Аляксеевіч ведае свайго шафёра, прайшоў з ім усю вайну, бачыў у самых цяжкіх баях і высока цаніў яго адвагу і кемлівасць. Рыгор ніколі не падвядзе. Ды і не турбавала гэта цяпер генерала...

У яго малавата ў запасе гаручага. Тэрмінова трэба адправіць людзей на станцыю, узяць адтуль бензін. Яго турбуе бензін, а не Вольга.

— Каго б мне паслаць на станцыю па гаручае? — разважае ўслых генерал.

Рыгор Гузак налёг грудзьмі на руль і неспакойна заёрзаў на сваім скураным сядзенні...

Мікалай Аляксеевіч без слоў зразумеў шафёра:

— Ну, Гузак, што ты хочаш сказаць мне?

— Адпраўце мяне, таварыш генерал.

Гузак любіць свайго генерала. Разам яны аб'ездзілі паў-Еўропы, ад Падмаскоўя да Берліна, не раз начавалі пад адным кажухом, пілі з адной конаўкі. Такое не забудзеш.

— Добра, Рыгор, паедзеш. Толькі справа гэта цяжкая і небяспечная.

— Ведаю, — адказвае Рыгор.

Вольга здалёк пачула рокат віліса. Яна чакала яго. І сэрца таксама чагосьці чакала. Напэўна, вясны, якая абяцае быць вясёлай і светлай.

Для Хуцэнкі яна ўжо наступіла.

— Вазьмі. Можаш не вяртаць. Яна мне больш не патрэбна. Я яе ведаю на памяць, — працягнуў ён паштоўку з партрэтам Суворава Гузаку.

— Мяне генерал пасылае па бензін на станцыю. Паедзеш са мной, Хуцэнка? — пытае Рыгор.

— Добра. Паеду.

Вольга слухала размову Хуцэнкі і Рыгора каля машыны. Хвалявалася, але выгляду не паказвала:

— Рыгор, пакінь гэтую паштоўку мне. У мяне яна будзе цэлай.

— Вазьмі, Волечка.

Сувораў па-асабліваму ўрачыста глянуў на Рыгора, быццам пажадаў поспеху ў яго нялёгкай справе.

***

Ноч. Генерал Пячуркін схіліўся над картай, штосьці запісваючы ў сшытак. Устаў, адкінуў аловак, распраставаў плечы. Вользе зручна з ложка назіраць за бацькам.

Раптам дзверы зямлянкі рыпнулі.

— Таварыш гвардыі генерал-маёр! Па вашым загадзе сяржант Хуцэнка прыбыў.

— Пасылаю цябе на станцыю да Гузака. Там штосьці не ладзіцца з помпамі, дапаможаш яму.

— Слухаю! — адрапартаваў Хуцэнка.

Вользе падабалася сачыць за бацькам, аналізаваць яго рашэнні. Вось зараз ён просіць па тэлефоне камандзіра суседняй знішчальнай авіяцыі заўтра зранку прыкрыць станцыю ад варожых самалётаў, забяспечыць перапампоўку бензіну. Здаецца, ён ніколі не стамляецца...

Класціся гэтай ноччу не збіраўся. Падышоў да ложка дачкі, папраўіў коўдру — Вольга ўсё-такі заснула.

Немцы пачалі бамбіць станцыю, не дачакаўшыся ранку: з дзвюх гадзін ночы кожныя паўгадзіны прылятаў самалёт і прыцэльна бамбіў эшалон з гаручым.

Гузак нервова аглядаў выратаваны бензін і шукаў вачыма Хуцэнку. Пеця толькі што перацягнуў бочкі з бензінам у сховішча. Мітусіўся каля машыны, разгрунтоўваў іх. Лаяўся на зенітчыкаў, якія ніяк не маглі збіць гэты паганы «юнкерс». Лаянка, напэўна, дапамагла — зенітчыкі «юнкерс» збілі.

Цяпер бензін бесперапынна паступае па трубах і шлангах у пустыя цыстэрны і бочкі на машынах. Помпы, давядзеныя да ладу Хуцэнкам, працуюць бездакзазна.

— Дзе ж, аднак, Хуцэнка? — пытае сам сябе Гузак. — Толькі што быў тут.

Хто ж мог ведаць, што смерць напаткае яго перад самай раніцай, што ўпадзе ён на сырую зямлю, падкошаны асколкам апошняй скінутай на паўстанак бомбы…

***

На флагманскім камандзірскім танку генерал Пячуркін уварваўся ў Берлін. Узрываліся ды ўзрываліся снарады і міны. Пажары. Шчэбень і пыл.

Вось гэтую абсаджаную дрэвамі вуліцу-дарожку толькі што адбілі ў ворага. На іншых вуліцах яшчэ страляюць.

Здаюцца эсэсаўцы — вылазяць са сховішчаў як пацукі: у падраных чорных гімнасцёрках, у брудзе і сажы.

Рыгор Гузак не толькі шафёр, ён і танкіст: у час бою перасаджваецца з віліса ў камандзірскі флагманскі танк і кіруе ім не горш, чым віліsam. Праз назіральную шчыліну Рыгору адкрываецца скораны Берлін, і сэрца трохі адыходзіць ад усяго перажытага.

І з паштоўкі, падараванай яму загінуўшым Хуцэнкам, усміхаецца Суворaў…

# ІМЁНЫ З АРХІВАЎ ПАМЯЦІ

Пабачыў свет трэці выпуск гісторыка-краязнаўчага гадавіка «Вілейскі павет» (Мінск: «Выдавец А. М. Янушкевіч», пры падтрымцы дабрачыннага фонду «Вяртанне». Укладальнікі С. Макарэвіч і Дз. Канецкі). Нагадаем, што папярэдні, другі, выпуск чытачы атрымалі два гады таму — у 2015-м.

Унікальныя архіўныя знаходкі ў спалучэнні з сапраўднымі палявымі даследаваннямі ў матэрыяле Дз. Лісейчыкава і А. Сцебуракі пра гісторыю з'яўлення і знікнення Беркаўскай царквы, пераклад кнігі польскага прафесара Тадэвуша Козел-Паклеўскага пра яго бацьку — прадстаўніка роду паўстанцаў 1863 года, а таксама пераклад некалькіх раздзелаў англамоўнай кнігі Рубіна «Дзеці Даўгінава», успаміны паэта і перакладчыка У. Папковіча, багата аздобленыя ілюстрацыямі артыкул С. Ганчара «Гісторыя горада ў фотаздымках Беркі Бермана» — тое, на што абавязкова варта звярнуць увагу. Адметнай, незвычайнай паводле тэматыкі даследавання падаецца публікацыя М. Міхалевіча «Рыбалка на Вяллі. Даследаванні паводле манаграфіі Канстанціна Тышкевіча». Пытанне пра замену спрадвечнай назвы мястэчка Іля на пазбаўленае глыбокага гістарычнага зместу Ілья або Ілля ўздымае І. Вараўка.

Даследчыкаў гісторыі беларускай літаратуры і тэатра зацікавіць працяг архіўнай публікацыі Віктара Жыбуля пра даўгінаўскага журналіста, фальклрыста і культурнага дзеяча Вульфа Сосенскага. У другім выпуску «Вілейскага павета» быў змешчаны заснаваны на архіўных матэрыялах з фондаў Беларускага дзяржаўнага архіва-музея літаратуры і мастацтва артыкул В. Жыбуля «Вульф Сосенскі — фальклрыст і міфатворца», а таксама мемуарна-фальклрыстычны твор апошняга «Версіі і легенды: Гутаркі пра беларускага паэта Ф. К. Багушэвіча». У трэцім выпуску — зноў жа ўпершыню — прадстаўленыя ўвазе чытача ўспаміны В. Сосенскага «Даўныя тэатры», якія ён стварыў па просьбе вядомага тэатразнаўца і пісьменніка У. Няфёда (машынапіс зберагаецца ў БДАМЛМ). Асоба Вульфа Сосенскага і яго зусім невядомая спадчына сапраўды вартыя ўвагі даследчыкаў. Дарэчы, цягам 1957 — 1964 гг. ён вёў ліставанне з тагачасным супрацоўнікам літаддзела газеты «Літаратура і мастацтва» Сцяпанам Александровічам.

Выпуск атрымаўся цікавым і разнастайным, заканамерна захоўваецца адданасць матэрыялам, прысвечаным Вілейскаму краю. Аднак тэматыка многіх публікацый сягае далей, а таму яны будуць каштоўнай крыніцай інфармацыі не толькі для краязнаўцаў, але і для гісторыкаў, філолагаў, архівістаў, даследчыкаў архітэктуры і традыцыйнай побытавай культуры Беларусі.

**Жана КАПУСТА**

*Лёсы старадрукаў*

# Віленскае Евангелле 1575 г.: віртуальнае «інтэрв'ю»

Пра што можа расказаць старадрукаваная кніга XVI стагоддзя? Што помніць яна з пражытых чатырох вякоў?

Насамрэч шмат чаго: і пра сваіх уладальнікаў, і пра чытачоў, і пра час і месца, у якім давялося пабываць за доўгае жыццё. Толькі расказаў пра гэта не ўсім. Звесткі неабходна расчытаць, расшыфраваць. Даследаваннем інфармацыі, якую захоўвае старадрукаваная кніга, займаюцца супрацоўнікі аддзела рэдкіх кніг і рукапісаў Цэнтральнай навуковай бібліятэкі Нацыянальнай акадэміі навук Беларусі.

Асобнік, які сёння даў згоду на «інтэрв'ю», незвычайны. Евангелле было надрукавана ў Вільні ў 1575 г. у друкарні Мамонічаў славутым беларускім майстрам Пятром Мсціслаўцам. Таму і статус кнігі самы высокі.

**Хто быў першым уладальнікам кнігі?**

Высветліць гэтую асобу ўдалося толькі нядаўна. На экзэмпляры захаваўся запіс скорапісам канца XVI ст.:

*«Сіе ev(ан)г(е)ліе тетр печатное положил игумен Евфіміе в селе А(н)гг(е)лове. <...> А подписал сам игумен Еуфіміе, Б(о)га ради г(о)с(под)не с(вя)щенник ім(я)р(е) к служащія в с(вя)том храме семь Успеніа Пр(е)с(вя)тыа Б(огороди)ци, незабвенны име и д(у)ша н(а)ша в с(вя)тых своих м(о)л(и)твах».*

Аналіз матэрыялу з розных крыніц, параўнанне почырку дазволілі ўстанавіць, што аўтарам запісу з'яўляецца Елеазар Туркоў (раней 1524 — пасля 1.10.1587), які прыняў пострыг пад імем Яўфімій.

Згаданае ў запісе сяло Ангелава з вёскамі ў 1532 г. было куплена манахамі Іосіфа-Валакаламскага манастыра. Вартасцямі набытага ўладання былі блізкасць да Масквы і размяшчэнне каля вялікай дарогі.

З Іосіфа-Валакаламскім манастыром быў цесна звязаны лёс Яўфімія Туркова. На працягу 12 гадоў ён быў вучнем былога архіепіскапа наўгародскага Феадосія. У 1560-я гг. Яўфімій прызначаны ўстаўшчыкам манастыра, сачыў за правільным правядзеннем царкоўных службаў, папаўненнем сінодзіку, у 1571 — 1572 гг. ён стаў таксама выконваць абавязкі манастырскага скарбніка. Сан ігумена Іосіфа-Валакаламскага манастыра 26 ліпеня 1575 г. Яўфімій атрымаў па патрабаванні самога цара Івана Грознага.



Віленскае Евангелле (1575 г.).

У сваім запісе ігумен звяртаецца да наступнага служыцеля царквы з просьбай аб паміnанні: *«І кто будет поп в той ц(е)ркви служител, и тому попу поминати, ігумена в животе за здрав(и) е а по смерти за упокои, да родителеи его Іона да иноку Марину».*

Дзякуючы запісам Яўфімія захаваліся звесткі пра яго сям'ю. Бацькам Яўфімія быў Іван Туркоў, які памёр 14 лістапада 1524 г. Маці паходзіла з дваранскага роду Ямскіх, у манастве насіла імя Марына.

Ва ўкладным запісе ігумен Яўфімій прасіў таксама памінанаць душу *«служащаг(о) в с(вя)том храме сем с(вя)щенноінока Місаила понеж(е) он велію веру имел к Пр(е)ч(и)стей Б(огоро)д(и)ци».* У публікацыі, прысвечанай інакам Іосіфа-Валакаламскага манастыра, згадваецца Місаіл (свяшчэннаінак у 1571 г.). Ён не быў колькі-небудзь вядомай асобай, не належаў да землеўладальнікаў, таму меў у манастыры сціплы статус.

Заканчваецца запіс урачыстым словам, звернутым да свайго пераемніка, служыцеля царквы: *«А Ev(ан)г(е)ліе сіе прочитаи с страхом і с трепетом и с великим б(е)реженіем як пред самым Х(ри)с(т)омъ і Б(о)гом предстоиш».* Для глыбока веруючага чалавека таго часу Евангелле ўяўляла сакральны прадмет, вышэйшую духоўную сутнасць.

Яўфімій Туркоў быў адным з таленавітых пісьменнікаў свайго часу. Ён збіраў творы настаўнікаў і вядомых сучаснікаў, перапрацоўваў іх, рэдагаваў, пісаў прадмовы.

**Што здарылася з асобнікам пасля смерці Яўфімія Туркова?**

Асобнік Евангелля з укладным запісам ігумена, відавочна, некаторы час пасля смерці ўкладчыка знаходзіўся ў багатым кнігазборы Іосіфа-Валакаламскага манастыра, які ў канцы XVI ст. быў у Рускім царстве трэцім па велічыні пасля Троіца-Сергіева і Кірыла-Белазёрскага манастыроў. Вядома, што да XVIII ст. кнігазбор манастыра значна скараціўся і складаўся ўсяго з некалькіх дзясяткаў кніг, у асноўным друкаваных. Бурныя падзеі XVII ст., відавочна, не дазволілі затрымацца ў манастыры і нашаму асобніку.

Манахі маглі пазбавіцца ад выдання з папсаванай рэпутацыяй пасля падзей 1627 г., калі патрыярх Філарэт падвергнуў цэнзуры богаслужбовыя выданні і загадаў выключыць з ужывання кнігі «літоўскага» друку. Не магла не адбіцца на лёсе асобніка царкоўная рэформа патрыярха Нікана, 1650 — 1660-х гг., накіраваная на ўніфікацыю праваслаўнага богаслужэння, выпраўлення богаслужбовых кніг. Цэрквам і веруючым было забаронена карыстацца ў богаслужэнні старадрукаванымі кнігамі як з «новопечатными несогласными». С гэтага часу кнігі, выдадзеныя да 1652 г., канфіскоўваліся, выключаліся з ужытку і замяняліся «новоисправленными».

Старадрукаваныя «даніканаўскія» кнігі ў цэркваў і манастыроў пачалі выкупаць і выменьваць стараабрадцы. Дарэформенныя кнігі былі асновай захавання іх веры.

Новы віток у лёсе асобніка быў звязаны з указам цара Мікалая II ад 17 красавіка 1905 г. «Об укреплении начал веротерпимости». Гэтым дакументам дэклараваліся роўныя правы прадстаўнікам усіх раней прыгнечаных канфесій, у тым ліку стараабрадцам, якім дазвалялася будаваць храмы і займацца грамадскай дзейнасцю. Стаабрадцы цяпер ужо адкрыта збіралі і захоўвалі асобнікі «даніканаўскага» друку, вялі гандаль царкоўнымі рэчамі і кнігамі. Дзякуючы стараабрадцам дайшла да нас большасць старадрукаваных выданняў, якія захоўваюцца цяпер у дзяржаўных зборах, такі лёс напаткаў і наш асобнік.

**Хто быў апошнім уладальнікам кнігі?**

У XX ст. на кнізе з'явіўся штамп: «Собственное собрание старопечатных и рукописных книг Стефана Федоровича Севастьянова». Такім чынам, уладальнікам асобніка стаў стараабрадзец Сцяфан Севасцьянаў (1872 — 1944), а потым і яго сын Міхаіл (1928 — 2006).

Сцяфан Севасцьянаў быў родам са стараабрадніцкага хутара Падсцепнага, станіцы Есаулаўскай, вобласці войска Данскога (цяпер тэрыторыя гэтага паселішча залітая водамі Цымлянскага вадасховішча). Да рэвалюцыі служыў у казачым палку аховы Мікалая II трубачом, пасля пасяліўся ў Раcтове-на-Доне і пачаў служыць устаўшчыкам Увядзенскай стараабрадніцкай абшчыны. У гады НЭПа займаўся камерцыяй, быў адным з асноўных папячыцеляў згаданай абшчыны.

Міхаіл Севасцьянаў таксама быў вернікам Увядзенскага стараабрадніцкага храма ў Растове-на-Доне. У 1946 г. ён келейнік у Вінніцкай стараабрадніцкай абшчыне, у 1953 — 1960 гг. служыць у Кіславодскай стараабрадніцкай абшчыне. У свой час Міхаіл Севасцьянаў скончыў Кабардзіна-Балкарскі дзяржаўны ўніверсітэт. На працягу жыцця неаднаразова абвінавачваўся ў антысавецкай дзейнасці, быў пад арыштам. З 1984 г. служыў устаўшчыкам у Растоўскай стараабрадніцкай абшчыне.

Паведамлялася аб канфіскацыі кніг з калекцыі Сцяфана ў 1933 г. і Міхаіла ў 1969/1971 г. Аднак канфіскаваныя былі, відавочна, не ўсе кнігі. Дзякуючы прадпрымальніцкай дзейнасці Міхаіла па набыцці кніг у асяроддзі стараабрадцаў і іх наступным продажы (пра што ёсць і негатыўныя водгукі) гэтыя кнігі атрымалі шырокае распаўсюджванне. У цяперашні час яны захоўваюцца ў фондах некалькіх бібліятэк, а таксама ў сына Міхаіла Івана (Іаана) Севасцьянава.

**Як кніга трапіла ў ЦНБ НАН Беларусі?**

ЦНБ НАН Беларусі набыла ў Міхаіла Севасцьянава экзэмпляр Евангелля 1575 г. у 1973 г. У аддзеле рэдкіх кніг і рукапісаў бібліятэкі захоўваецца перапіска 1973, 1991 гг. былой загадчыцы аддзела Лідзіі Збралевіч (1930 — 2012) і Міхаіла Севасцьянава ў сувязі з купляй кніг з калекцыі Севасцьянавых.

Міхаіл Севасцьянаў пераслаў Лідзіі Збралевіч аддрукаваную на машынцы кароткую даведку пра свайго бацьку «Стефан Фёдоровичь Севастьянов и его коллекция старопечатных и рукописных книг», у якой паведамляў, што значную частку калекцыі Сцяфан атрымаў ад свайго дзядзькі, але асноўная частка была сабрана самім Сцяфанам Севасцьянавым галоўным чынам у перадрэвалюцыйныя гады, падчас Першай сусветнай, грамадзянскай войнаў і ў першыя гады савецкай улады. У мірны час (20 — 30-я гады) Сцяфан збіраў кніжныя рэдкасці і ў сваіх адзінаверцаў.

З даведкі вынікае, што Сцяфан быў захоплены калекцыянерам, шмат падарожнічаў па мясцінах, дзе пражывалі стараабрадцы. Перад смерцю Сцяфана яго калекцыя старадрукаваных і рукапісных кніг дасягала 700 тамоў.

**Што набыў і што страціў асобнік?**

Першапачатковы пераплёт асобніка Евангелля напрастольнага 1575 г. не захаваўся, цяпер асобнік «апрануты» ў сціплую кардонную аправу, зробленую ў акадэмічнай бібліятэцы ў 1970-х гг. Залаты абрэз кніжнага блока з чаканам дазваляе меркаваць, што асобнік калісьці меў традыцыйны для Евангелля напрастольнага багата ўпрыгожаны аклад.

На асобніку захаваліся шматлікія кроплі свячнога воску, найбольш іх на аркушах з малітвай «Отче наш» і наступнай прыпавесцю пра надакучлівага сябра, верагодна, кнігу часта адкрывалі і чыталі на гэтым месцы.

Вось тое, што мог бы паведаміць у віртуальным «інтэрв'ю» адзін з самых прыгожых старадрукаў XVI ст. з калекцыі аддзела рэдкіх кніг і рукапісаў Цэнтральнай навуковай бібліятэкі НАН Беларусі.

**Алена ЦІТАВЕЦ**

# У ЧАКАННІ ПРЫЎКРАСНАГА. Частка 2

**Даўняя традыцыя беларусаў — збірацца талакой на добрую справу — сёння працягваецца ў віртуальнай прасторы, займеўшы форму краўдфандынгу. Зрэшты, справа пры гэтым робіцца самая што ні на ёсць рэальная: выдаюцца патрэбныя і цікавыя кнігі. Пра іх і распавядзем.**




## БЯССПРЭЧНЫ ГЕНІЙ

Так называюць Уладзіміра Дубоўку куратары праекта, скіраванага на выданне збору твораў паэта. Сродкі на двухтомнік Дубоўкі — найбольш поўны на сёння — ужо сабраныя. Цяпер справа за рэдактарамі ды выдаўцамі.

Чым кіраваліся ўкладальнікі-стваральнікі збору твораў Дубоўкі? «Пакуль што ва ўсім свеце няма ніводнага чалавека, які бачыў бы ўсе вартыя друку творы Уладзіміра Дубоўкі надрукаванымі. Не бачыў іх і ён сам, — пішуць яны. — У дваццатых, калі надзвычай таленавіты, імклівы, бясспрэчны лідар літаратурнага працэсу Дубоўка адзін за адным выдаваў зборнікі вершаў, шмат з іх пакідалася для дапрацоўкі, а пасля — друкаваць ужо не было як, бо імя і кнігі Уладзіміра Дубоўкі на трыццаць год былі забароненыя». Праз трыццаць гадоў выпрабаванняў Уладзімір Дубоўка вярнуўся да актыўнай літаратурнай працы. Выключны выпадак: пасля чатырох прыгавораў (усе — па палітычных працэсах), высылкі, лагера ён не толькі выстаяў, але й захаваў добры, не без гумару, погляд на свет (і ў літаральным значэнні гэтаксама), а яшчэ захаваў свае словы. «Так, яго друкавалі з цяжкасцямі і агаворкамі. Так, яго вымушалі рэдагаваць і перапісваць старыя вершы на новы лад. Але ён вярнуўся тады — і працягвае вяртацца па сёння. Тыя вершы, якія не маглі пабачыць друку сорак год таму, нарэшце стала можна апрылюднівать».

Збор твораў Уладзіміра Дубоўкі — амаль 900 старонак — чакаў свайго часу тры гады. Выдасць яго «Лімарыус», вядомы па анталогіях «Краса і сіла» і «Галасы з-за небакраю», серыі «Беларуская мемуарная бібліятэка» і біяграфічным альманаху «Асоба і час». Збор твораў Дубоўкі пабачыць свет у серыі «Галасы Айчыны».

## ПСІХАЛОГІЯ СТАСУНКАЎ

Гэта й так рэч няпростая, а калі размова заходзіць пра стасункі між дарослымі і дзецьмі, ступень складанасці падвойваецца, бо тут разыходзяцца не толькі светапогляды дзвюх розных асоб, але й светапогляды розных пакаленняў, розных прыярытэтаў — спіс насамрэч бясконцы.

Нямецкі пісьменнік і эсэіст Эрых Кэстнер у сваім XX стагоддзі спрабаваў разабрацца ў гэтых стасунках. Ён напісаў дзіцячы раман «Падвоеная Лота» («*DasdoppelteLottchen*»), дзе паказвае, што часам дзеці бываюць мудрэйшыя за дарослых, іх галовы не затлумленыя лічбамі і сухімі фактамі, і яны, маленькія насельнікі Зямлі, лепш разумеюць сутнасць самога жыцця.

Дарэчы, дзякуючы гэтаму раману і кнізе «Эміль і дэтэктывы» Кэстнер і набыў вядомасць.

Перакласці раман «Падвойная Лота» на беларускую мову ўзяўся Юрый Галамака, выпускнік лінгвістычнага ўніверсітэта. Кніга пры належнай падтрымцы выйдзе ў фармаце электроннай. Сам перакладчык распавёў: «Колькі год таму я вырашыў, што жадаю перакласці нешта з нямецкай на беларускую. Пачаў гэтым займацца, вынік не спадабаўся, і пераклад паловы кнігі знік. Праз пару гадоў, аднак, калі я ўжо быў у болей сталым узросце, вырашыў паспрабаваць яшчэ раз. І атрымалася. Спадзяюся, што атрымаецца і выданне».

## ТРЭЦЯЯ ДЗЯРЖАЎНАЯ

Ці можа трасянка быць літаратурнай мовай? У сэнсе — мовай мастацкай літаратуры. Снобы расцягнуць транспаранты з гучным і катэгарычным «Не!», а мы, людзі простыя, лёгка прызнаем, што так. Сірожка Пістончык (Сяргей Прылуцкі), Анка Упала (Алена Казлова), паасобныя тэксты Дзяніса Хвастоўскага, творчасць таямнічай Дуні Марцінкевіч, дый «Родныя дзеці» Ніла Гілевіча, якія не-літаратурай ніяк не прызнаеш, — усё гэта сведчыць на карысць нашага дэкламаванага «так».

А вось яшчэ адзін святар гумарыстычна-філалагічнага культу: Ярыла Пшанічны (сапраўднае імя Уладзімір Банько). Ён паспеў выдаць адну кнігу вершаў — «Пшчавыя лішкі», у 2011 годзе. А праз чатыры гады паэта не стала. Цяпер сябры аўтара ды аматары яго творчасці ўзяліся за выданне другой кнігі, якая мае назвацца «Атамная лучына». Кнігу абвясцілі вясёлай, вострасацыяльнай і багата ілюстраванай.

Ярыла Пшанічны стаў вядомы ў літаратурных колах дзякуючы сваёй адданасці трасянцы. Аднак не толькі ў тым «фішка», як кажуць: насамрэч, трасянка — цудоўны гумарыстычны інструмент, які дазваляе сказаць вельмі многа, не называючы рэчаў наўпрост. Гэта падвойнае задавальненне для чытача: пасмяяцца і разгадаць прыхаваны сэнс тэксту.

Зборнік «Атамная лучына» будзе многа аб'ёмнейшы за першую кнігу, аздоблены графічнымі работамі Пшанічнага і фотаздымкамі. Назву кнізе дала аднайменная паэма, над якой Ярыла Пшанічны працаваў на працягу 2010 — 2011 гг. Гэта сатырычны водгук паэта на экалагічныя праблемы сучаснасці, стылізаваная пад фальклор і фантастыку. Разглядаючы адзіную прыжыццёвую кнігу Ярылы Пшанічнага, крытыкі зазначалі: «Так, блазенства і сур'ёзнасць, бяздумная радасць і горкі смутак — у жыцці зусім побач стаяць, і маюць уласцівасць вокамгненна трансфармавацца адно ў адно» (Міхась Южык, «Тэксты», 2012, № 2). Акрамя паэмы кніга змяшчае вершы Ярылы Пшанічнага, якія пісаліся з 2000 па 2015 год і ў папярэдні зборнік не ўвайшлі. Яны таксама працягваюць сатырычна-іранічны кірунак, зададзены ў першай кнізе. Паэт пародзіруе заштампаванасць прыёмаў мастацкай вобразнасці, звяртаецца да трэш-эстэтыкі: «Сонца градусам калоціць / Кулаком па галаве». Уклаў кнігу паэт і літаратуразнавец Віктар Жыбуль, а выдаць яе збіраюцца «Галіяфы». Меркаваны аб'ём «Атамнай лучыны» — 360 старонак, наклад — 300 асобнікаў.

## ТУГА І ХІНДЗІ

Алеся Макоўская — выпускніца Інстытута Хіндзі (Агра, Індыя). Яна займаецца перакладамі з хіндзі на рускую мову, удзельнічае ў грамадзе беларуска-індыйскай сяброўства, арганізатар і кіраўнік анлайн-студыі мовы хіндзі «Аланкар».

Спадарыня Алеся прапаноўвае чытачу падтрымаць яе праект, прысвечаны паэзіі сучаснага індыйскага аўтара Нарэша Кумара Удаса. Зборнік перакладаў мае назву «Вершы тужлівых дзён». Пры гэтым перакладчыца тлумачыць: «Зусім не значыць, што ў вершах толькі туга. Разам з тугою іх заключаная і плынь думак. Туга адзіноты гэта ці нейкая іншая нагода для суму, якое б там ні было гора ці пакута. Калі чалавеку даводзіцца несці цяжар адзіноты, яго спачуванне і суперажыванне робяцца больш насычанымі. І тады ён напоўніцу ўсведамляе хуткаплыннасць і мітуслівасць свету. Ён задумваецца, што ж такое жыццё?..» Гэтаксама аўтарка праекта адзначае, што паэтычны талент і ўменне суперажываць у Нарэша Кумара Удаса спалучаюцца арганічна, не шкодзячы адно аднаму: паэзія не забівае вольнасць думкі і пачуцця, а пачуцці не робяць верш сентыментальным. Пры паспяховым завяршэнні збору сродкаў чытача чакае знаёмства з сучаснай індыйскай паэзіяй, памножанае на 200, — такі планаваны наклад кнігі.

**Наста ГРЫШЧУК**

# Таемныя знакі Пушчы,

## або Падзел Рэчы Паспалітай у коміксах

Такі цікавы фармат аповеду пра гісторыю двух народаў абраў польскі аўтар Томаш Самойлік. Яго, да слова, можна знайсці ў коміксе: праз 137 гадоў па завяршэнні асноўнай гісторыі дзеці блукаюць па Белавежы з апантаным сваёй справай гідам-натуралістам... Ці не сам гэта пан Томаш?

Навуковец, супрацоўнік Інстытута даследавання сысуноў Польскай акадэміі навук у Белавежы, Томаш Самойлік прафесійна займаецца даследаваннем натуральнай гісторыі Белавежскай пушчы. Як многія натуралісты, якім хочацца падзяліцца сваёй любоўю да жывога (згадаем хоць бы непаўторнага Джэральда Дарэла), ён піша кнігі для дарослых і дзяцей, і асобны від творчасці ў гэтым рэчышчы — коміксы. Казка «Бортнік Ігнат і скарб пушчы», якую на беларускую мову пераклала Вольга Гуд, — адзіны беларускамоўны комікс-казка на сёння. Выданне з'явілася дзякуючы «Галіяфам» у 2015-м, аднак за два гады новых кніг у такім жанры так і не з'явілася. Так, комікс як літаратурны жанр (калі сур'ёзныя даследчыкі дазволяць так сказаць) у беларускай кніжнай прасторы існуе. Згадаем, прыкладам, «Дзікае паляванне караля Стаха»: адзін з найвядомейшых твораў Уладзіміра Караткевіча стаўся літаратурнай асновай для графічнага аповеду (зрэшты, гэта й не зусім комікс у класічным разуменні). Можна таксама згадаць такую экзатычную з'яву, як аповеды Васіля Быкава, укладзеныя ў жорсткія межы графічна-літаратурнага твора. Такія «прадукты» неабходныя для разнастайнасці кніжнага рынку, для папулярызацыі класікі сярод школьнікаў ці нават ленаватых студэнтаў, але функцыю строга літаратурную яны наўрад ці могуць адолець. Тут на першы план выходзяць работы мастакоў.

«Бортнік Ігнат і скарб пушчы» ў гэтым кантэксце — напраўду ўнікальная кніга. Тут тэкст і малюнак раўнапраўныя, бо ўзніклі паралельна. Гэта арыгінальная казка, а не адаптаваны да жанру комікса мастацкі тэкст.

Сюжэт казкі закручаны вакол гісторыі пра падзел (мяркуючы па ўсім, першы) Рэчы Паспалітай. Так, сярод герояў комікса — Кацярына II, сквапны генерал, яго паплечнікі, сяляне, якім новая ўлада не да густу, але смеласці на змаганне не хапае... Ёсць і «сівая легенда» — паданне пра Белага Бортніка, што ўвасабляе сабой клопат пра прыроду і самую справядлівасць, непазбежнае пакаранне за зладзействы. Словам, сюжэт архетыповы — абарона сакральнага месца; а вось арыгінальным робіць яго нацыянальны каларыт і ў паэўным сэнсе — экалагічная праблематыка. Што цікава, Томаш Самойлік пераводзіць канфлікт на вышэйшы ўзровень, дзе гутарка ідзе пра Дабро і Зло, а не пра падзел нейкіх пэўных палітычных ды геаграфічных межаў і ўплываў. Да слова, дзеянне ў коміксе разгортваецца не адно ў Беларусі ды Польшчы, але й на тэрыторыі сучасных Літвы і Украіны. Было б цікава параўнаць пераклады казкі на мовы літоўскую, украінскую ды нашую: якія акцэнты расставяць перакладчыкі?.. Як загавораць украінская і літоўская Кацярына II? Такія лінгвістычныя нюансы могуць многае распавесці пра погляд пэўнага пацярпелага ад падзелаў народа на гэты самы падзел.




Анатацыя пазначае, што выданне будзе цікавае не толькі дзецям. І гэта праўда: рэплікі персанажаў, іх міміка, вымалёўка характараў проста-такі палымнеюць дасціпным гумарам. Падаецца, дарослым комікс прынясе нават большае задавальненне, чым дзецям: для іх гратэскная прамалёўка антыгероя — справа звыклая; усякая эмоцыя ў коміксе заўжды ўзмоцненая, што абумоўлена самім жанрам. А вось дарослы чытач (пры ўмове, што ён дасведчаны ў гісторыі краю) ад душы пасмяецца са спробаў царыцы выглядаць маладзейшай ды падхалімажу быццам бы смелага генерала, усмікнецца рамантычнаўзнёсламу, аж да камізму, паэту. Безумоўна выйгрышны вобраз малой Люцыі, якую выхоўваюць у духу Русо, гэта значыць на вольніцы, з лазаннем па дрэвах і басаногімі шпацырамі. Такое вольнае, смелае дзяўчо — сімвал нонканфармізму, які ў дзецях пажадана бачыць у іх на будучыні. У нечым Люцыя падобная да Піпі Доўгайпанчохі (прызнамся, я ўпэўненая, што яны між сабой цудоўна б паладзілі).

Падкрэслім, што комікс пра бортніка Ігната не толькі забаўляльны, але й асветніцкі, прычым патрэбныя дзеля ведання сваёй гісторыі звесткі ён не пхае ў дзіцячую памяць наўпрост: праз гумар, дыялог інфармацыя засвойваецца натуральным чынам. Сапраўды, калі дзеці ведаюць біяграфію Супермена, але не ведаюць гісторыю Каліноўскага, што заменае нам зрабіць з Кастуся супергероя? Тым больш што такі ён і ёсць. Проста сухі стыль падручніка забівае рамантызм вобраза — а дарма, бо якраз асобам жывым, неідэальным, супярэчлівым і цікавая гісторыя.

**Наста ГРЫШЧУК**

# ЛЕПШЫЯ ВЫСТАЎКІ МАЯ: КУДЫ ВАРТА СХАДЗІЦЬ?

## ПЛОШЧА ЯКУБА КОЛАСА

1 **Што:** Выставачны праект «Мастак і горад» сёлета мае назву «Залатая калекцыя беларускага жывапісу і графікі» і прадстаўляе работы трыццаці пяці беларускіх аўтараў.

**Дзеля чаго:** Праект настолькі палюбіўся жыхарам горада, што дождж і холад не напалохалі аматараў мастацтва, якія прыйшлі на адкрыццё. Выстаўка будзе працаваць на плошчы Якуба




Коласа да канца лета. За гэты час гледачы змогуць пазнаёміцца з творамі знакамітых прадстаўнікоў беларускага мастацтва, такіх як Гаўрыла Вашчанка, Леанід Хобатаў, Зоя Луцэвіч, Уладзімір Савіч, Руслан Вашкевіч, Ягор Батальёнак, Анатоль Бараноўскі ды іншых.

Мастацкія творы, якія дэманструюцца ў рамках праекта, належаць беларускім аўтарам розных пакаленняў і творчых поглядаў. Менавіта таму выстаўка на вольным паветры сёлета больш шырока прадстаўляе жыхарам сталіцы і яе гасцям свет айчыннага мастацтва.

**Чаму ісці:** Праект «Мастак і горад» стаў запатрабаваным. На гэта ўплывае сам фармат экспазіцыі. Бо не трэба спецыяльна ехаць у музей альбо галерэю. Тут, у самым сэрцы горада, на працягу некалькіх месяцаў тысячы людзей могуць атрымліваць асалоду ад лепшых узораў беларускага выяўленчага мастацтва. Выстаўка атрымалася разнастайнай і глыбокай. Дарэчы, для бацькоў гэта вялікая інфарматыўная пляцоўка, дзе яны могуць далучыць дзяцей да свету творчасці.

## МАСТАЦКАЯ ГАЛЕРЭЯ ІМЯ МІХАІЛА САВІЦКАГА

2 **Што:** Выстаўка «Космас Івана Міско» прысвечана 85-годдзю народнага мастака Беларусі. Касманаўтыка — адна з галоўных тэм у творчасці скульптара, таму для арганізатараў не было цяжкасцю вызначыць тэматыку і сэнс мастацкага праекта.



**Дзеля чаго:** Сярод герояў работ Івана Міско — ледзь не ўсе касманаўты былога Савецкага Саюза. Пазіравалі мастаку і многія ўдзельнікі інтэрнацыянальных касмічных экіпажаў з Польшчы, Кубы, Румыніі, Манголіі, Францыі, Германіі, Балгарыі, Сірыі, Вялікабрытаніі, В'етнама, Аўстрыі… Практычна з кожным з іх скульптар знаёмы асабіста. Іван Міско адзначае, што прадстаўленая выстаўка падштурхнула яго да новых ідэй, якія аўтар паспрабуе рэалізаваць да Міжнароднага кангрэса па касманаўтыцы, які пройдзе ў Мінску ў верасні.

**Чаму ісці:** Выстаўка адметная гістарычным складнікам: скульптар прысвяціў сваю творчасць тэме космасу і не расчараваўся. Глядач зможа адчуць моцную энергію адначасова творчасці і космасу. Акрамя скульптурных партрэтаў госці выстаўкі могуць убачыць фотаздымкі, зробленыя на борце МКС, а таксама літаграфіі савецкага касманаўта Аляксея Лявонава і мастака-фантаста Андрэя Сакалова.

## НАЦЫЯНАЛЬНЫ МАСТАЦКІ МУЗЕЙ РЭСПУБЛІКІ БЕЛАРУСЬ

3 **Што:** Юбілейны выставачны праект «Пра зямлю і неба» вядомага беларускага мастака Анатоля Кузняцова — вынік саракагадовай дзейнасці аўтара, жыццё і творчасць якога непарыўныя.

**Дзеля чаго:** Творчасць аўтара падзяляецца на перыяды, якія вызначаліся змяненнем абстаноўкі як у прафесійнай сферы, так і ў жыццёвых абставінах. Мастак пераносіць на палотны перажыванні, адлюстраваныя з дапамогай розных колераў, іх спалучэнняў. Кожная выставачная зала адлюстроўвае асобны перыяд творчасці, таксама пазначаны колерам. Ёсць зала рыжая, ёсць — зялёная, а ёсць і чырвоная.



*Анатоль Кузняцоў «Кампазіцыя».*

**Чаму ісці:** Тэма зямлі і неба ў Анатоля Кузняцова звязана адной філасофскай думкай: чалавек на зямлі жыве з Богам. У прадстаўленай экспазіцыі гледачу зручна разважаць над штодзённымі працэсамі жыцця, адчуваць паэтыку мастацтва. Аўтар запрашае нас паглыбіцца ў свет гармоніі і спакою, дзе кожны адчуе прыемныя ноткі цяпла.

## ДЗЯРЖАЎНЫ ЛІТАРАТУРНЫ МУЗЕЙ ЯНКІ КУПАЛЫ



*Барыс Аракчэеў «Будуецца новы дом», 1964 г.*

4 **Што:** Выстаўка «Цэлы край — родны мне й дарагі…» — канцэптуальны праект, які складаецца з мастацкіх твораў Барыса Аракчэева і яго дачкі — Аксаны Аракчэевай.

**Дзеля чаго:** Як кажа старшыня Беларускага саюза мастакоў Рыгор Сітніца, Аксана Аракчэева — рэдкі прыклад таго, як дачка трапятліва і шчыра беражэ любы ўспамін пра любімага бацьку. Кожны год да дня нараджэння мастака яна арганізоўвае новыя выставачныя праекты. Іх унікальнасць у тым, што экспазіцыя складаецца з невядомых гледачу раней мастацкіх твораў. Гэтым разам Аксана адабрала малюнкі і акварэлі майстра, зробленыя на пленэрах з 1960 па 2004 год. Тут жа прадстаўленая і яе ўласная серыя пейзажных замалёвак, якія нарадзіліся падчас паездак па Беларусі, — у Мядзеле, Свіры, на возеры Нарач.

**Чаму ісці:** Нягледзячы на тое, што Барыс Уладзіміравіч і Аксана Аракчэевы — прадстаўнікі адной дынастыі, іх стыль у мастацтве абсалютна розны. Як адзначае мастачка, ад бацькі яна пераняла галоўнае — адданасць мастацтву. А свой стыль, індывідуальны почырк набыла падчас асабістых пошукаў у творчасці. Таму, патрапіўшы на выстаўку, цікава не толькі пазнаёміцца з творчасцю мастакоў, але і прааналізаваць падабенства і адрозненне аўтараў.

## МАСТАЦКАЯ ГАЛЕРЭЯ «ЎНІВЕРСІТЭТ КУЛЬТУРЫ»

5 **Што:** Выстаўка з нагоды 40-годдзя кафедры харэаграфіі Беларускага дзяржаўнага ўніверсітэта культуры і мастацтваў — рэтраспектыва існавання і дзейнасці кафедры, адлюстраванне яе дасягненняў і адкрыццяў новых імёнаў у айчыннай культуры. Выстаўка ладзіцца ў межах XXV юбілейнага фестывалю мастацтваў «Арт-мажор».

**Дзеля чаго:** У экспазіцыі прадстаўлены фотаздымкі, якія адлюстроўваюць гісторыю станаўлення кафедры і яе жыццё сёння, сцэнічныя касцюмы і эскізы ў выкананні вядомага беларускага мастака Юрыя Піскуна, афішы. Арганізатары экспазіцыі адзначаюць, што выстаўка мае вялікае значэнне не толькі для супрацоўнікаў, але і для студэнтаў, якія могуць прасачыць эвалюцыю прыярытэтаў і скіраванняў кафедры.

**Чаму ісці:** Кафедра харэаграфіі з'яўляецца вядучым адукацыйным, навукова-даследчым і творчым цэнтрам па падрыхтоўцы спецыялістаў у галіне харэаграфічнага мастацтва, таму на выстаўцы можна ўбачыць самыя розныя сцэнічныя касцюмы: ад аўтэнтычных да сучасных, многія з якіх захаваліся са стварэння кафедры і былі адзначаны на розных міжнародных фестывалях.



Вікторыя АСКЕРА

# Усё пра яго

## (адвольныя думкі пра тое, дзе можна цяпер сустрэць доктара Францыска з Полацка)



Ён быў чалавекам, жывым. Марыў і цярпеў за свае мары, шукаў і быў зняважаны, адстойваў сваю справу і не скарыўся, пакуль было магчыма. За гэта мы ставім яму помнікі. Таму што хацеў бачыць лепшай сваю радзіму: адукаванай, прасунутай, дзе людзі жывуць у суладдзі паміж сабой і з Боскім блаславеннем на свае зямныя справы. І як жа гэта ўсё знаёма нам: ці не пра тое марым, ці не да таго ж імкнёмся? Але каму з нас нашчадкі паставяць помнікі?

Цяпер ёсць нагода паразважаць пра тое, што могуць мяняцца часы, але ў любую эпоху рух чалавечага грамадства залежыць ад пасіянарных асоб, здольных жыць дзеля справы і рабіць яе ўпарта, насуперак абставінам, нават самаахвярна. Адна з тэм спектакля «Кар'ера доктара Рауса», прэм'ера якога адбылася ў Рэспубліканскім тэатры беларускай драматургіі —

### пазачасавасць пасіянарыя.

Пастаноўка з'явілася як адзін з вынікаў рэспубліканскага драматургічнага конкурсу «Францыск Скарына і сучаснасць», праведзенне якога ініцыяваў тэатр у супрацоўніцтве з Нацыянальнай бібліятэкай Беларусі і пры падтрымцы Беларусбанка. Таму што насамрэч вынікаў значна больш, і цяпер у нашых тэатраў ёсць магчымасць у адметны для беларускай культуры год прапанаваць гледачам сцэнічныя развагі пра асобу першадрукара. Што ставіць, шукаць не трэба: лепшыя п'есы выдадзеныя ў зборніку «Францыск Скарына і сучаснасць». Пра пастаноўку паводле Мікалая Рудкоўскага ў Магілёўскім абласным драматычным тэатры мы распавядалі раней. Цяпер шырока абмяркоўваецца прэм'ерны спектакль «Кар'ера доктара Рауса» паводле п'есы Віктара Марціновіча ў Рэспубліканскім тэатры беларускай драматургіі. Мастацкі кіраўнік тэатра Аляксандр Гарцуеў узяў адну з тых п'ес, што была адзначана як пераможца, дзе паралель з сучаснасцю праводзіцца часам літаральна, а Скарына нібыта чалавек з нашых дзён (эпохі спелай кніжнай культуры — і хіба гэта не так?), такі вандроўнік у часе і прасторы. А ўмовы і абставіны, у якія ён трапляе, каб сцвердзіць сваю ідэю, відаць, падобныя да тых, з якімі сутыкаюцца творцы ў любыя часы. Мяняецца толькі антураж.



Францыск Скарына прыходзіць у офіс Якуба Бабіча. Малады чалавек — а ён жа быў і маладым, а не толькі важным дзядзькам з вусамі! (таму ў гэтай ролі занятыя маладыя артысты Дзмітрый Давідовіч і Арцём Курэнь) — шукае працу. Не столькі сталае месца з пастаянным заробкам, колькі спрабуе давесці бізнесоўцу карысць ад увядзення інавацыі. Прыходзіць у маленькую фірму, таму што буйныя «кампаніі» ўжо адмовілі: яго прапанова не ўпісваецца ў іх бізнес-план. Ён робіць прэзентацыю, распавядаючы пра новы гаджэт для самаадукацыі людзей — друкаваную кнігу. Бабіч, відаць, з-за апантанасці суразмоцы ідзе на рызыку, нават не ўяўляючы, што нават яго імя здолее на стагоддзі захаваць гэты авантурыст. А можа, адыгралі вырашальную ролю рэзюмэ з партфоліа, якое прадставіў доктар Францыск Скарына, што меў еўрапейскую адукацыю (няхай і вучыўся «па квоце для сельскіх жыхароў»)? Яму ўдалося «раскруціць» мецэната на інвестыцыі, дзякуючы якім наш першадрукар з вышыні цяперашняга часу і сапраўды ўяўляецца як

### стваральнік гаджэтаў.

Дзіўна ў размове пра Скарыну карыстацца надта сучаснай лексікай. Але калі разабрацца, то жыццё рушыць па коле, дзе некаторыя рэчы маюць падобную сутнасць. Гэтая сутнасць можа выяўляцца ў падачы праз розныя тэхналогіі, пад рознымі назвамі. Але сутнасць ёсць сутнасць: у час Скарыны найсучаснейшай інавацыяй для перадачы ведаў была тэхналогія кнігадрукавання, якая знайшла выяўленне ў гаджэтах новага тыпу — кнігах. Ён, еўрапеец паводле мыслення, ужо разумее, колькі карысці можа прынесці гэтая тэхналогія яго землякам. Асабліва калі яны атрымаюць магчымасць чытаць на той мове, якой навучаныя з маленства, каб радзіма не была правінцыяй. Яго ідэя-фікс. Іх найбольш складана рэалізаваць: чыясьці апантанасць у грамадстве Вялікага Княства Літоўскага, якое на той час развівалася стабільна ў сваім рытме, дзе ўсё ўсіх і так задавальняе (ёсць жа Святое Пісанне, няхай і перапісанае, але яго можна чытаць), выклікае неразуменне. Тым больш, што перавагі такога гаджэта складана ацаніць хутка — для гэтага патрэбны шлях у стагоддзі. Вось для нас такая з'ява, як кнігі, ужо звычайная. І мы Скарыну выдатна разумеем…

Таму час у спектаклі — катэгорыя ўмоўная. Яго пазначае гадзіннік, што вісіць на сцэне: яшчэ адзін сімвал таго, як могуць сплятацца розныя часы: на электронным табло чырвоным гараць лічбы 1515, 1530 і г. д. На тое, што Скарына — асоба па-за часам, нашу ўвагу звяртае і вопратка героя (плашч ці паліто-шынелька службы асветы) у адрозненні ад больш канкрэтнай гістарычнай адметнасці іншых герояў, якія вонкава яшчэ абазначаюць прыналежнасць да сваіх краін (мастак па касцюмах Таццяна Лісавенка). Сцэнічны вобраз спектакля зададзены мастаком Андрэем Меранковым. Вакол Скарыны як носьбіта інавацый — тэхналагічныя прадметы. Металічныя стэлажы рассоўваюць прастору, мадэлюючы розныя пакоі і нават розныя культурныя традыцыі пэўных краінах, розныя ступені развіцця і далучанасці да прагрэсу, дзесьці яго ўвасабляе кніга, а дзесьці — знішчальнік для папер.

І калі б доктар Францыск Скарына жыў зараз, то хутчэй за ўсё без праблем бы карыстаўся планшэтам, званіў бы па мабільніку ў гарачых сітуацыях, як звычайны вандроўнік, піў бы чай з гранёных шклянак, як у цягніку. А таксама паўсюль, куды б ні завітаў, даказваў бы, што бываюць інвестыцыі доўгатэрміновыя, ад якіх немагчыма чакаць хуткай аддачы. Ці наогул можна інвеставаць у чалавечы капітал — і тады аддача не ў эканамічных паказчыках, а ў развіцці краіны. Для яго гэта —

### не безнадзейная справа.

Але ж даказаў! Толькі ў кансерватыўным грамадстве зручнасць і карысць новых тэхналогій не так хутка здолелі ацаніць. Адсюль і актыўныя пошукі доктарам Скарынам падтрымкі збоку. У спектаклі ён яе шукае ў Вільні і Кракаве, звяртаецца да нямецкіх пратэстантаў ці да прадстаўнікоў Тэўтонскага ордэна ў Кенінгсбергу (Калінінградзе), едзе ў Маскоўю, дзе на той момант валадарыць цар Іван Жахлівы. Які прыём чакаў (бы?) яго там, можна толькі ўяўляць, і справа не столькі ў тым, ці было так у гісторыі, ці не. Справа ў тым, у якім кантэксце існавала творчая асоба тады, які гэты кантэкст цяпер: ці шмат змянілася для жыхароў нашай зямлі і тых, хто прагне яе развіцця (тэхналагічнага, эканамічнага, гуманістычнага…).

У нейкі момант разумееш, што ў гэтым спектаклі галоўны герой — менавіта кантэкст, у якім існуе чалавек перадавых поглядаў, творца, талент якога немагчыма ацаніць у дадзены момант. Кантэкст няўлоўна адчуваецца — па асобных рэпліках, дэталях, сцэнах. Кантэкст пазнавальны, што ў познаньскім судзе, дзе героя вінавацяць у тым, чаго ён не рабіў і знявольваюць за даўгі брата (рэальны гістарычны факт), што на маскоўскім вакзале, дзе ў дзіўнага вандроўніка правяраюць дакументы (факт нерэальны, але адчувальны цяпер). У гэтым кантэксце герой успрымаецца як прадстаўнік контркультуры, які супраць цемрашальства вымушаны жыць на перадоленне (і выказанне пра яго ўдакладняецца прыёмамі контркультуры, а не сродкамі мастацтва). Кантэкст дзейнічае і праз асобнага героя (нерэальнага, але вакол кожнага творцы ёсць свае спакусы і спакушальнікі, што спрабуюць адцягнуць ад справы і чыняць перашкоды). Яго роля ў лёсе доктара пазначана асобным персанажам, які праходзіць скрозь розныя сцэны і з'яўляецца ў розных землях. «Файны хлопчык у галіфэ» — спараджэнне фантазіі аўтараў — ёсць у Вільні, Познані, Маскве, Празе. У лепшыя часы не спіць і цяжкія выпрабаванні правакуе. Персанаж, які любую вясёлую гісторыю здольны ператварыць у драму, — што на сцэне, што ў жыцці. Персанаж, без якога б Скарынаву моц уявіць было б складана, і наогул моц ідэі, якая перамагае час.

Гледачам прапануюць перамагаць разам: смяяцца з тых, хто мог не разумець, з кантэксту і з абставінаў, нават калі за імі рэальная трагедыя (цяпер жа мы ведаем, хто ў выніку апынуўся на вышыні), і з тых, хто не ў кантэксце сёння. Таму што ўстаноўкі, спакусы і нават парадыгмы нашага сучаснага жыцця карэлююцца з жыццём Скарыны. Калі аўтары мелі на ўвазе яго, то з жаданнем паразмаўляць пра нашу сучаснасць. Гэты ход мае права на ажыццяўленне, таму што праз Скарыну лепш разумець тое, што адбываецца з намі зараз, і можна падумаць пра тое, ці ёсць цяпер падобныя асобы ў беларускай культуры.

Кожны глядач можа задаць гэтае пытанне сабе. А таксама скласці сваё меркаванне пра тое, што ў спектаклі камедыйнае, а ў чым жа тут трагедыя (як у прамым, так і ў пераносным сэнсе). Размова ў такім ключы актуальная, можа, таму атрымала такую дзіўную, не вельмі «прыгладжаную» форму, дзе некаторыя сцэны ўтрыравана камічныя, а некаторыя — занадта драматызаваныя. У дадзеным выпадку справа ў пошуку іншага характару — выказвання пра тое, дзе і ў кім сёння рэзаніруе энергія доктара Францыска Скарыны Руса. Ці здолее яна натхніць яго любімую радзіму на яшчэ адзін пасіянарны штуршок? Тэхналагічны, эканамічны, гуманістычны…

**Ларыса ЦІМОШЫК**

## Хто для вас Францыск Скарына?

**Аляксандр ГАРЦУЕЎ, рэжысёр:**

**— Я б сказаў, што гэта вельмі трагічная фігура. Невыпадкова я вызначыў жанр спектакля як «гістарычна недакладная трагікамедыя». Не варта шукаць гістарычныя памылкі: аўтарам дадзена права ўявіць, як магло б быць у тых абставінах, каб паказаць умоўнасць і нават вечную нявырашанасць некаторых сітуацый. У нашым уяўленні Скарына — гэта чалавек, які напрыканцы жыцця зрабіў кар'еру, але займаецца абсалютна іншай справай. Ён ідзе на працу каралеўскага садоўніка, дзе плацяць грошы, можна існаваць спакойна і стабільна… У гэтым я бачу трагічную ноту: усё жыццё змагацца за ідэю кнігі, а ў канцы сесці ціхенька ў Празе ў каралеўскім палацы, садзіць дрэвы.**

**Не думаю, што Скарына быў надта засяроджаны на сабе, пры тым, што выданне Бібліі ўтрымлівае яго партрэт, — ён гэта зрабіў, і ў гэтым таксама крэатыў. Нават смеласць для таго часу. Таму для мяне сэнс у тым, каб мы, сённяшнія, маглі лепш зразумець, што яму давялося вытрымаць. І не складвалі б рукі ў складаных абставінах, якія шмат у чым падобныя. У людзей нічога не мяняецца, людзі — заўсёды жывыя істоты. Праз гэты ход хацелася падкрэсліць, што ён жывы чалавек, што галадаў, яго білі, судзілі, ён меў іншыя праблемы. Але працягваў несці ідэю, у якую верыў. Менавіта такія людзі ствараюць цывілізацыю.**

# Праекцыя душы

## Частка IV: Прыкметы рэальнасці ў казачнай анімацыі

**Аўтарская казка разам з народнай займае важнае месца ў жанравай палітры анімацыйнага мастацтва. Абапіраючыся на фальклорныя вытокі, сучасная казка нясе векавечныя каштоўнасці ў выразных выяўленчых формах. На гэтым шляху айчынныя мастакі актыўна выкарыстоўваюць досвед еўрапейскай, галоўным чынам расійскай, анімацыі.**

### НОВЫЯ ТЭХНІКІ

Галоўная асаблівасць і найважнейшы вынік перыяду другой паловы 1980 — 1990-х гадоў — уздым беларускай анімацыі на ступень пэўнай сталасці: высокі прафесійна-арганізацыйны ўзровень, прысутнасць некалькіх творчых пакаленняў таленавітых майстроў, выхад на еўрапейскую і сусветную фестывальныя арбіты і набыццё міжнароднага аўтарытэту.

На пачатку XXI стагоддзя важным і складаным этапам у развіцці беларускай анімацыі стаў пераход з плёнкі на камп'ютарныя тэхналогіі. Першыя эксперыменты вядомыя яшчэ ў 1990-я гады. Пазней, у 2002 годзе, з'явіўся фільм «Песенька для канарэйкі» А. Пяткевіч, дзе камп'ютар выкарыстоўваўся для падбору фарбаў, прамалёўкі і расфарбоўкі персанажаў, фону і дэкарацый, для кампаноўкі кадраў і заліўкі фону. Пошукі рэжысёр працягнула ў стужцы «Чароўная крама», дзе спалучыліся маляваная тэхніка і камп'ютарная перакладка. Незвычайная гісторыя, якая здарылася напярэдадні Новага года з Татам і Малышом, распаведзена маляўнічай мовай і пластычнымі вобразамі, якія ўвасабляюць казачную атмасферу чароўнай крамы.

Цікавымі падаюцца вопыты маладога рэжысёра Н. Хаткевіч па стварэнні фільмаў з прыкметамі камп'ютарных гульняў. Так, у стужцы «Бегла мышаня па траве» ёсць рысы вядомай камп'ютарнай гульні «*Counter-Strike*»: ёю захапляецца маленькае мышаня ў пакоі, які нагадвае камп'ютарныя схемы; палёт механічнай стракозы агучаны рэплікамі з гульні. Цалкам у тэхналогіі камп'ютарнай перакладкі зроблена стужка «Як служыў жа я ў пана» У. Пяткевіча па сюжэце жартоўнай беларускай народнай песні: вырашыў бедны мужык завесці гаспадарку, наняўся на службу да пана, ажаніўся з яго дачкой, абзавёўся жыўнасцю. Клопатаў мужыку стала болей, а шчасця... — не.

Адметная з'ява сучаснай анімацыі — анімацыйныя серыялы. Першым стаў сумесны беларуска-расійскі праект «Рэактыўны парсючок» А. Ленкіна, у межах якога выйшла 6 серый (1994 — 2007). Вясёлыя гісторыі пра прыгоды парсючка Нюшкі і яго сяброў ваўчка Андрушкі і вараняняці Кірушкі мелі адпаведныя назвы: "Як вылечыць літару "Р"", "Як не засмуціць маму", "Як перачакаць непагадзь", "Як гуляць у кнігу", "Як пабудаваць дом" і г. д. Увагу маленькіх гледачоў прыцягваюць стылістыка комікса, адкрытыя лакальныя колеры, шматлікія трукі.

Амаль 10 гадоў Ігар Воўчак здымаў вялікі праект — серыял «Прыгоды Несцеркі» пра самага папулярнага персанажа народных казак. Герой паказаны ў традыцыях народнай смехавой культуры. Ён уступае ў барацьбу з дурнымі панамі, суддзямі-хабарнікамі, злымі вартаўнікамі і перамагае іх. Камп'ютарная тэхніка дазволіла стварыць вострахарактарныя тыпажы сялян, пастухоў, ганчароў, пекараў, з аднаго боку, і панства — з другога. Эксцэнтрычна-гратэскавы стыль прасочваецца таксама ў знешнім выглядзе галоўнага героя, які падобны да вясёлага насмешніка: у яго блакітныя вочы з прыжмурам і хітрая ўсмешка. Васьмісерыйны праект стаў этапным для развіцця айчыннай анімацыі.

### СУЧАСНАЕ ПРАЧЫТАННЕ

Наогул, заўважная арыентацыя студыі на стварэнне серыялаў і альманахаў. Прыкметай часу сталі працяглыя, шматсерыйныя праекты, сярод апошніх — «Пра дзяўчынку Жэню» Т. Жыткоўскай і Н. Касцючэнка, «Рыбка па імені Нельга» А. Ленкіна. У першым адчуваецца ўплыў камп'ютарных гульняў, калі дзеці вандруюць у пошуках злога Бабая. Яны знаёмяцца з Кратом і Дзюймовачкай, Старой з карытам на беразе мора. У канцы фільма нарэшце з'яўляецца абаяльны Бабай: «І зусім я не злы, і навошта мною дзяцей палохаць?» Маляваны серыял «Рыбка па імені Нельга» распавядае пра прыгоды няўрымслівага Карасіка. «Рыбнае» царства паўстае ў фантастычных абставінах і гумарыстычных сітуацыях. Аляксандр Ленкін як рэжысёр і адначасова мастацкі кіраўнік анімацыйнай студыі паказвае тут патэнцыял камерцыйнага кіно.

Беларуская анімацыя вылучаецца жанравай разнастайнасцю і звяртаннем да розных тэм сучаснага жыцця, гістарычнага мінулага і фантастычнай будучыні. У 2000-я гады выяўляе сваю актуальнасць і сацыяльную вастрыню гістарычная тэма, якая заўсёды была адным з самых устойлівых духоўна-эстэтычных арыенціраў айчыннага мастацтва. З 2006 года пачаўся працэс творчага абуджэння, які М. Тумеля назваў «маленькім беларускім рэнесансам». Запускаюцца фільмы, часам у шматсерыйнай форме, укаранёныя ў фальклорнай або нацыянальнай тэматыцы: «Беларускія прымаўкі», «Папяровыя ўзоры», «Як служыў жа я ў пана...» з цыкла «Музычная скарбонка» (усе — рэжысёр Тумеля). Выразны і запамінальны стыль яго работ, дзе малюнак імітуе выразаныя папяровыя выцінанкі, узяты непасрэдна з беларускіх выяўленчых традыцый. Персанажы, дэкарацыі, фоны, рэквізіт — амаль усё зроблена з выцінанкі, традыцыйнага матэрыялу народных майстроў. Увагу прыцягваюць арыгінальныя фігуры, самыя розныя рэчы са звычайнай паперы: людзі, дрэвы, фантастычныя істоты. У стужцы навідавоку навізна і забаўляльнасць персанажаў і сітуацый.

Важным па грамадзянскай тэматыцы і асветніцкай функцыі праектам апошняга часу з'яўляецца цыкл «Аповесць мінулых гадоў», які вядзе адлік з 2006 года і распавядае пра гісторыю ўзнікнення гербаў гарадоў Беларусі (мастацкі кіраўнік І. Воўчак). Мікрафільмы распавядаюць пра сімвалы, якія выяўлены на гербах і маюць старадаўняе паходжанне. Сцэнарысты Д. Якутовіч і М. Бяршацкая разам з калектывам сапраўдных майстроў айчыннай анімацыі (рэжысёры І. Воўчак, М. Тумеля, А. Ленкін, У. Пяткевіч; мастакі А. Мацюшэўская, Т. Кубліцкая, Я. Надточый ды інш.) аднавілі легенды і старажытныя паданні, якія звязаны з важнымі гістарычнымі падзеямі і фактамі, з роллю горада ў гісторыі дзяржавы. Батальныя і ваенныя сюжэты, якія напаўняюць усю гісторыю Беларусі, сталі цэнтральнымі ў гэтым праекце. Але часам ратуе добры гумар, камічная трактоўка гістарычных персанажаў і сімвалаў беларускай і сусветнай міфалогіі — бога Сварога і яго дачкі Лёлі, Пегаса, Льва. Праект наогул пазначае важны для сучаснай анімацыі асветніцка-адукацыйны кірунак.



*Кадр з фільма «Чароўная крама» (рэж. А. Пяткевіч).*

Прыпавесць, міфалогія і казка — народная або аўтарская — працягваюць актыўна прэзэнтаваць сябе ў анімацыі пачатку XXI стагоддзя. Прыпавесць «Птаха» А. Ленкіна — гэта кранальная гісторыя пра незвычайнае сяброўства старога і ластаўкі, дзе аўтары паспрабавалі адказаць на адвечнае пытанне пра сэнс чалавечага жыцця. Казку для дзяўчынак «Было лета» І. Кадзюкова пабудавала на прыёме папяровай марыянеткі. Персанажы паўстаюць як выразаныя з паперы лялькі, якія носяць папяровыя сукенкі і касцюмы, — гэтай простай і даступнай гульнёй захапляліся дзяўчынкі савецкіх часоў.

### АДВЕЧНЫЯ КААРДЫНАТЫ

Сваю версію казачнага жанру прапанаваў У. Пяткевіч у фільме «Мышка» (2013), вырашаным у тэхніцы традыцыйнай перакладкі. Тут відавочны багатыя традыцыі кніжнай графікі, калі з'яўляецца магчымасць падрабязна разглядаць кампазіцыю і глыбіню кадра, фоны і дэталі, каляровае рашэнне. Пры ўсёй вытанчанасці і відовішчнасці візуальнага боку некалькі прасталінейна і зусім не падзіцячаму ўспрымаецца сюжэт пра пошукі мужа для Мышкі. У выніку Мышка выслізгвае ад усіх жаніхоў і мчыцца дадому, да мамы. Па сутнасці, перад намі рэмейк на тэму Калабка. Розніца толькі ў прыкметах сучаснай рэальнасці.

Набірае рэжысёрскі запал Таццяна Кубліцкая, за плячыма якой вялікі досвед мастака-пастаноўшчыка. Сучаснае прачытанне беларускай казкі прапануе Т. Кубліцкая ў фільме «Піліпка» (2012). Аблічча Піліпкі пададзена ў стылістыцы дзіцячага малюнка, а Баба-Яга паўстае як маляўнічы вобраз з усімі адценнямі балотнага колеру. Свет дабра, Піліпкі, яго маці — гэта свет чыстых ліній, празрыстага малюнка, у той час як сфера Бабы-Ягі больш маляўнічая і шматколерная. Арыгінальным візуальным рашэннем аўтар пераасэнсоўвае суадносіны станоўчых і адмоўных персанажаў. Рэжысёрскія пошукі Кубліцкая працягнула ў стужцы «Песня Жаўрука» (2014), знятай па аднайменнай казцы Леаніда Улашчанкі, таксама ў тэхніцы камп'ютарнай перакладкі. Заяўленая адраснасць фільма, прызначанага для самых маленькіх гледачоў, вызначыла стылістыку стужкі. Вобразы птушак — маленькага Жаўрука, Салаўя, Грача, Вароны — прапісаны ярка і выразна. Беларускі каларыт выяўлены праз гучанне цымбалаў, малюнак кветак, ляснога ручайка. Стужка атрымалася лёгкая і гарманічная па настрої, з выразнай музыкай і дынамічным метрарытмам. Лірычная стужка «Вясна ўвосень» (2015) па аднайменнай казцы У. Караткевіча завяршае своеасаблівую анімацыйную трылогію, якую аб'ядноўвае казачны жанр, беларускамоўны тэкст і накіраванасць на дзіцячую аўдыторыю.

У экранізацыі беларускай народнай казкі «Про Вала» (2014) мастак і рэжысёр Яўген Надточый стварыў яскравыя вобразы беларускіх мужыкоў, якія нагадваюць дзяцей з вялікімі спалоханымі вачыма. Дэбютам маладога рэжысёра Ірыны Тарасавай стаў маляваны фільм «Гусятніца ля калодзежа» (2013) па матывах казкі братоў Грым. Тут вельмі цікавая праца мастака-пастаноўшчыка А. Мацюшэўскай, якая перадае фактуру рознага матэрыялу — пухнатых аблокаў, перламутравых жамчужын, якія ўзніклі са слёз каралеўскай дачкі. Другая работа Тарасавай — «Лыжка для салдата» (2015), дзе раскрываецца лірычны талент рэжысёра. Аповед пра прыгоды лыжкі, пасланай маці салдату на вайну, зроблены ў духу лепшых вершаў Аляксандра Твардоўскага. Візуальная стылістыка, створаная мастаком Мацюшэўскай, блізкая дзіцячаму малюнку, таму нават самыя страшныя сцэны бітвы, авіяцыйнай і танкавай атакі, гібелі байцоў успрымаюцца скрозь прызму дзіцячага погляду.

Асаблівай аўтарскай манерай адзначаны фільм «Ронда-капрычыёза» І. Воўчака, які ўвайшоў у праграму лепшых фільмаў 2014 года на Міжнародным фестывалі анімацыйных фільмаў у Хірасіме (Японія). Спавядальнасць існуе тут поруч з самаіроніяй. Думка простая і мудрая: суіснаванне ў жыцці прозы і паэзіі. Сельскае жыццё паказана з яго адвечнымі клопатамі і адначасова сімволікай. Поле засаджваюць насеннем, восенню збіраюць ураджай, зіма прыносіць радасць дзятве, якая катаецца на санках. У гэтых адвечных каардынатах існуе звычайная сям'я. Сакавітая ў формах жонка знаходзіцца ў пастаянных пошуках мужа і гучна кліча: «Антось!» Ён жа мае свае хвіліны радасці ў хляве, дзе разглядае цудоўную кнігу. Нарэшце Антось выходзіць з хлява, апранае самаробныя крылы і ляціць. Аднак палёт доўжыцца нядоўга, наваяўлены Ікар пад звыклы вокрык «Антось!» падае ў балота. Цёплы гумар пранізвае гэты трагікамічны аповед пра цягу да мары.

**Антаніна КАРПІЛАВА**


Балетмайстар-пастаноўшчык Валянціна Гаявая, харэограф Мікалай Дудчанка, заслужаная артыстка Рэспублікі Беларусь Святлана Патапавіч.

# СТАНЦАВАЦЬ ЖЫЦЦЁ

## Як сустрэць вясну ды зладзіць спатканне ў жыце, паказваюць «Харошкі»

**Харэаграфічны ансамбль «Харошкі» — танцавальная легенда беларускай сцэны. За сорак тры гады існавання назва калектыву стала нацыянальным брэндам. Чуеш слова «Харошкі» — і адразу ўяўляеш прафесійных танцораў, якія адмыслова выконваюць беларускія танцы, народныя музычныя інструменты, прыгожыя аўтэнтычныя касцюмы, узноўленыя па модзе мінулых стагоддзяў. Як гэта — быць «Харошкамі»? Каб зразумець, давялося правесці некалькі дзён за кулісамі канцэртнага жыцця калектыву.**

### Прафесія «танцор»

Для танцораў кожны працоўны дзень пачынаецца ў балетным класе. З раніцы — класічны 45-хвілінны трэнаж, потым рэпетыцыя, якая можа цягнуцца больш за тры гадзіны. У адной з залаў Беларускай дзяржаўнай філармоніі напоўніцу ідзе праца. Без прыгожых канцэртных строяў, якія надаюць артыстам святочнасці падчас выступаў, увага выпадковага гледача цалкам скіравана на складанасць рухаў ды фізічныя намаганні, якія трэба прыкласці, каб з усмешкай на твары лётаць па сцэне. Пакуль хтосьці з танцораў зноў і зноў паўтарае новы нумар пад акампанемент аркестра, іх калегі расцягваюцца і разаграваюцца, каб у патрэбны момант заняць сваю пазіцыю. За ўсім дзействам сочыць народная артыстка Беларусі, мастацкі кіраўнік і заснавальніца ансамбля Валянціна Гаявая. Ад яе пільнага вока не ўхіліцца ніводная недарэчнасць, не застанецца нявыпраўленай ніводная загана. Момант — і яна ўжо сярод танцораў, паказвае на ўласным прыкладзе, якіх рухаў патрабуе мізансцэна.

Народная артыстка Беларусі Валянціна Гаявая згадвае, як калісьці адзін высокапастаўлены калега заўважыў: «Танцаваць — не працаваць». Але ж танец — вельмі складаная і цяжкая прафесія! Часам танцоры вымушаныя мяняць кашулі, а то і цалкам пераапранацца — пад канец рэпетыцыі яны ўсе мокрыя. Нават выхадныя бываюць розныя: часта канцэрты прыпадаюць на суботу або нядзелю. Як правіла, канцэрты бываюць, бо, нягледзячы на тое, што ў рэпертуары «Харошак» амаль тэатральны змест, а сам ансамбль утрымлівае вялікі калектыў і ўласны аркестр, сваёй пляцоўкі не маюць. Але нават у такіх умовах ансамбль дэманструе адметныя рэчы з пункту гледжання харэаграфіі, музыкі, вакалу.

Звычайна на гастролі выязджаюць ужо спрактыкаваныя карыфеі сцэны. Моладзь, якая танчыць побач з майстрамі, застаецца: працягвае працу на месцы, вучыць новыя нумары — імкнецца даказаць, што таксама гатовая паехаць у тур. Гастролі — не толькі па Беларусі. Часцей за ўсё «Харошкі» едуць у Расію (тройчы былі на Міжнародным музычным фестывалі імя М. І. Глінкі).

Калектыў запатрабаваны і ў Еўропе: ансамбль збіраў тысячы гледачоў на муніцыпальных канцэртах у Італіі, куды яго запрашалі кожнае лета ў 90-я гады. «Харошкі» столькі вандравалі, што ўжо ведаюць, якую праграму і для якой краіны трэба рыхтаваць. На думку Валянціны Гаявой, цікавасць да беларускіх «Харошак» у Еўропе абумоўлена надзвычайнай змястоўнасцю нумароў.

— У нашых канцэртах вялікі змест. Ні ў адным нумары ансамбля няма бессэнсоўных танцаў, — сцвярджае балетмайстар-пастаноўшчык Валянціна Гаявая. — Мы распавядаем пра жыццё, гісторыю, каханне. У нашых мініяцюрах не проста спяваюць ды танчаць — там выпраўляюць мужоў на вайну, ладзяць у жыце спатканні, садзяць бульбу, выганяюць пасвіцца скаціну, сустракаюць вясну, з тугой ды смуткам прыслухоўваюцца да крыку журавоў… Перад аўдыторыяй разгортваецца зразумелае харэаграфічнае палатно. Аднойчы, пасля нумара з сенакосам, да мяне падышлі пажылыя жанчыны, што прыехалі на канцэрт з Асіповіцкага раёна: «Усё так, як калісьці было з намі! Адкуль жа вы ведаеце?». А мы спачатку вызначаем гісторыю, якую хочам распавесці, потым ставім рухі, рыхтуем аранжыроўку, падбіраем ды шыем касцюмы. Калі ўсё гатова, я раблю маленькі спектакль — змястоўную харэаграфічную мініяцюру.

### Аркестр з народным каларытам

Большасць канцэртаў «Харошак» — з жывым гукам, фанаграма — як выключэнне падчас вялікіх зборных выступаў. Музыка калектыву грунтуецца на фальклоры, таму ў складзе аркестра ёсць асаблівыя народныя інструменты. Гэта дыятанічныя цымбалы, жалейкі, дуда, ліра, чарот-саломка (інструмент з каласка), басэтля, што замяняе бас-гітару ў старажытнай праграме. Некаторыя музыкі навучаліся граць на народных інструментах на спецыяльным аддзяленні ў Беларускім дзяржаўным універсітэце культуры і мастацтва, але большасць — акадэмісты, якія прыходзілі ў калектыў з Беларускай дзяржаўнай акадэміі музыкі з класічнай спецыяльнасцю і самі засвойвалі новыя кірункі.


Падчас рэпетыцыі танцораў.

— Я скончыла Акадэмію музыкі з акадэмічным інструментам цымбалы-прыма, але падчас працы ў калектыве прыйшлося пазнаёміцца з яго народным варыянтам — дыятанічнымі цымбаламі, — распавяла артыстка аркестра Ульяна Гаўрылава. — Было адносна лёгка, бо яны роднасныя. Часам нам даводзіцца вывучаць зусім непадобныя інструменты: напрыклад, я выконвала некалькі нумароў на жалейцы. Думаю, што кожны музыка, які любіць сваю справу, здольны засвоіць іншы, неабавязкова тоесны ўласнаму, інструмент.

Музычная аснова пастановак — народныя тэмы. На канцэртах «Харошак» слухач можа пазнаць некаторыя матывы кшталту «Лявоніхі», але, безумоўна, ёсць тое, што адрозніць не кожнае вуха. Музыкі вышукваюць кампазіцыі, прыдатныя для танца па памеры і рытме, у зборніках, анталогіях народнай музыкі. Часам згадваюць забытыя матывы ці аднаўляюць музыку з мінулых пастановак — у саракагадовым ансамблі вярнуцца да старога бывае больш складана, чым прыдумаць новае. З улікам складу аркестра ды кольkасці інструментаў робіцца аранжыроўка. Галоўнае — каб інструментоўка адпавядала форме танца, таму музычныя нумары нараджаюцца ў супрацоўніцтве з харэографам.

### За дзвярыма касцюмерных

У трох касцюмерных ансамбля «Харошкі» захоўваюцца строі нават ад пачатку існавання калектыву. Загадчыца касцюмернай Ніна Сашко гартае свае запісы, каб агучыць дакладную лічбу, колькі іх: у яе распараджэнні — 6872 элементы адзення.

— Для харэаграфічнага ансамбля, які спецыялізуецца на народнай творчасці, мець столькі касцюмаў і нумароў, колькі ёсць у «Харошак», амаль нерэальна, — мяркуе Ніна Сашко. — Працэс пашыву касцюмаў не спыняецца: разам з пастаноўкай новых нумароў рыхтуецца адзенне, пастаянна абнаўляюцца і замяняюцца строі з бягучага рэпертуару. Натуральна, працуем паступова. Інакш разнастайны сцэнічны гардэроб (а гэта касцюмы і з XVI, і з XX стагоддзя, і фальклорныя строі, і адмысловае адзенне пад вясну, лета, восень, зіму) было б немагчыма пашыць.

Асноўныя мастакі па касцюмах — Аляксей Гаявы і Юрый Піскун — шукаюць ідэі: глядзяць, што раней апраналі ў вёсках, звяртаюцца да гістарычных вытокаў, нешта бяруць з уласнай бібліятэкі касцюмаў. Строі на старадаўні манер удасканальваюць не толькі з пункту гледжання фасону, але і матэрыялу: не кожная тканіна пасуе для выкарыстання на гастролях.

— Падтрымліваць касцюмерную ў працоўным стане складана, але мы стараемся. Самі бачыце! — паказвае загадчыца на сваё ўладанні.

І паглядзець сапраўды ёсць на што: перад вачыма паўстаюць шэрагі сцэнічных касцюмаў, галаўных убораў, паясоў. Мадэлі, пашытыя на заказ вясковымі бабулямі; кашулі, упрыгожаныя сапраўднай ручной вышыўкай; разнастайныя паясы; спецыфічны абутак, які пасуе да канкрэтных касцюмаў; безліч асобных элементаў з карункаў, аксаміту ды футра…

— Калі няма любові да сваёй справы, калі чалавек усё робіць для сябе, для сцвярджэння ўласнага «я», нічога добрага не атрымаецца. Зусім іншыя вынікі чакаюць тых, хто стараецца для людзей, — тлумачыць Валянціна Гаявая. — Лічу, як бы цяжка і складана ні было, трэба рабіць тое, што нясе карысць людзям. У кожнага чалавека свой густ, але «Харошкі» патрэбныя беларусам. Наша праца на галаву вышэйшая за дасягненні многіх высакакласных нацыянальных калектываў з іншых краін, бо ў іх ёсць аднастайнасць: аднолькавыя нумары, падобная музыка, толькі колеры касцюмаў змяняюцца. Я ж вырашыла так: у «Харошак» ніводны нумар не будзе падобны да іншага, ніводны касцюм не супадзе з папярэднім, музыка ніколі не прагучыць у адной танальнасці.

**Дар'я ЧАРНЯЎСКАЯ**


Фота Кастуся Дробава.
У касцюмерных «Харошак» шмат прыгожых народных строяў.

# Майстар камернага пейзажа

Цягам красавіка ў Нацыянальным мастацкім музеі Рэспублікі Беларусь працуе выстаўка «Зачараваны імгненнем» вядомага беларускага жывапісца Мікалая Ісаёнка. Мастак прадставіў гледачам больш за 70 твораў. Юбілейная выстаўка, прысвечаная 70-годдзю майстра, прадугледжвае рэтраспекцыю, па меншай меры, за апошнія 45 гадоў нястомнай працы. Выбраць сем дзясяткаў твораў для паказу не так проста, калі іх некалькі соцень: карціны, маленькія эцюды, накіды, за якімі — мукі творчасці, радасць пазнання натуры, апантанасць, вера ў сябе і адначасова незадавальненне.

— Што б ні пісаў Мікалай: пейзажы, партрэты ці свае улюбёныя бэзы ў квецені, шыпшыны і люпіны — ён ніколі не быў абыякавым. У яго няма твораў, зробленых без веры, без улюбёнасці, без страсці, — адзначае жонка майстра — мастачка Марыя Ісаёнак.

Мікалай Ісаёнак вядомы лірычнымі і манументальнымі краявідамі Беларусі (адзін з іх — «Беларускі лён» — у канцы 1980-х гадоў набыла Траццякоўская галерэя), і вытанчанымі кветкавымі нацюрмортамі, якія нястомна піша шмат гадоў у садзе сваёй вясковай сядзібы ў Чарневічах пад Барысавам, якую жонка ператварыла ў сапраўдны «райскі сад». Менавіта гэтыя, створаныя на нюансах колеру, маленькія пейзажы і кветкавыя кампазіцыі адкрываюць далікатную душу мастака, якая хаваецца за знешняй брутальнасцю.

Майстар — пейзажыст-лірык па прызначэнні, ад Бога — працуе над пейзажам у класічнай рэалістычнай манеры пленэрнага жывапісу. Гэта значыць непасрэдна з натуры. Часта — у адзін сеанс, як некалі імпрэсіяністы. Ён прызнаны майстар камернага пейзажа. У яго жывапісе прасочваецца дакладнасць і непасрэднасць уражання эцюда, і ўменне ўбачыць у штодзённым матыве (які, здавалася б, ён і не шукае адмыслова) тонкае зачараванне «вясковай» Беларусі з яе шэранькімі дзянькамі, вясновымі гайкамі, незаўважнымі ваколіцамі і замкамі, якія размясціліся сярод снежных палёў. Сам ён іранічна называе сябе мастаком «хмызнякоў», гэта значыць звычайных прыдарожных дзікіх зарослых пералескаў, у якіх здолеў разглядзець непрыкметную прыгажосць і беларускую характэрнасць. Аўтар неахвотна падарожнічае за мяжу: на экзотыку не адгукаецца яго сэрца. Гэта сапраўдны нацыянальны беларускі мастак, якога шырокаму гледачу яшчэ трэба будзе адкрыць.



*«Калядны дзень», 1993 г.*



Эцюды з натуры Мікалая Ісаёнка апошніх гадоў прынцыпова «некарцінныя», але пазнаюцца па асаблівым, уласцівым толькі яму настроі: душэўнасць, лёгкая журбота, сумная пяшчота, паэтычнасць. Яму ўдалося знайсці сваю інтанацыю, сваю тэму сярод мноства выдатных сучасных майстроў беларускага пейзажа. У карціны Ісаёнка закахаліся шматлікія калекцыянеры (у адной прыватнай мінскай калекцыі знаходзіцца каля 100 палотнаў мастака), вядомы яны і звычайным аматарам жывапісу з розных краін. У беларусаў яны закранаюць у душы асаблівыя струны настальгіі па дзяцінстве і любові да радзімы, выказанай шчыра, без ілжывай патэтыкі. У майстэрні мастака захоўваецца нямала першакласных эцюдаў розных гадоў. Лепшыя — у калекцыях Нацыянальнага мастацкага музея Рэспублікі Беларусь, Барысаўскага аб'яднанага і Віцебскага мастацкага музея, Фонду Саюза мастакоў Беларусі, прыватных зборах некалькіх краін. Да юбілейнай выстаўкі сябрамі мастака створаны дакументальны фільм (рэжысёр — Дзмітрый Зайцаў) і падрыхтаваны альбом-каталог асноўных твораў.

**Надзея УСАВА,**
**мастацтвазнаўца**

## Культурны ракурс

Знаёмцеся: перад вамі — самы маленькі ветраны млын у Беларусі. Самае галоўнае: млын-казлоўка з усімі арыгінальнымі механізмамі і прыстасаваннямі — у працоўным стане!

Аднойчы мой сябар, рэстаўратар і калекцыянер, завітаў у госці паглядзець мой этнаграфічны музей. Падзяліўся з ім марай збудаваць на лецішчы сапраўдны вятрак. На што сябар распавёў, што ў Драгічынскім раёне «жыве» вельмі маленькі млын. Але інфармацыя была старой.

Неўзабаве мы накіраваліся ў вёску Мікіцк, дзе, сапраўды, захаваўся ўнікальны млын, які, як аказалася, быў апошнім з падобных яму ў нашай краіне. Жыхарка гэтай вёскі, 85-гадовая Праскоўя Жытковіч, зацікавілася, навошта нам гэтая «цацка». А калі даведалася, што мы хочам набыць млын, а потым яго аднавіць, — адразу ж згадзілася на нашу прапанову.

Пабудаваў гэты цуд прыкладна ў 1936 годзе яе свёкар, які спецыяльна ездзіў за рэдуктарам у Польшчу. На рэдуктары ёсць дата яго вырабу — 1889 год. Хутчэй за ўсё, гэты механізм не быў прызначаны для памолу, а ўмелы гаспадар прыстасаваў для сваіх патрэб.

У свой час млынам карысталася не толькі сям'я Жытковічаў — хапала і аднавяскоўцам. Кажуць, падчас акупацыі каля вятрака, як стратэгічнага аб'екта, нават выстаўлялі варту. Пасля вайны, у 1955 годзе, млын рэстаўравалі і да нядаўняга часу выкарыстоўвалі па прызначэнні. Але пасля таго, як пайшоў у нябыт муж Праскоўі Іванаўны, вятрак стаяў без працы. Састарэлы, ён не варты нават на дровы, лічыла гаспадыня. Згубіліся крылы, поўнасцю згнілі паваротная платформа і дах…

Да сябе на ўчастак я перавёз механізмы і асноўныя дэталі млына: рэдуктар, жорны з корабам, на якіх бачна польская пячатка, паваротную платформу з балкамі. Таксама захавалася маслёнка, куды закладвалі дзёгаць, тавот (паводле гаспадыні, іншы раз выкарыстоўвалі нават стары кавалак сала) для змазвання механізмаў і паваротнай платформы. Само ж памяшканне ветрака і крылы былі адноўлены па арыгіналах. Адзінае, што дазволіў сабе змяніць, — прарэзаць дадатковае акенца ў сцяне, каб упусціць унутр больш святла.

Знаёмы ляснік дапамог у выбары парод дрэў. Млын адрэстаўраваны і адноўлены з тых жа самых парод дрэва і такіх жа памераў, якія меў раней.

Чатыры гады таму вятрак запусцілі! Адразу ж намалолі кукурузнай мукі. Разам з рэдуктарам на млыне працуе механізм павароту: дышлем, прымацаваным звонку, можна паварочваць вятрак у бок ветру. Таксама аднавілі арыгінальны тормаз для спынення крылаў.

Хаця млын знаходзіцца ў музеі на лецішчы ў вёсцы Хадакова Мінскага раёна, за 12 кіламетраў ад Мінскай кальцавой аўтадарогі, паглядзець гэты экспанат прыходзяць і сябры, і суседзі па ўчастку, нярэдка прыязджаюць і турысты. Акрамя млына тут знаходзяцца яшчэ два дамы з вельмі рэдкімі этнаграфічнымі экспанатамі, сабранымі з усёй Беларусі.

**Уладзімір ЦВІРКА**



***Да ўвагі чытачоў! «ЛіМ» і ў новым годзе працягвае конкурс «Культурны ракурс». Умовы творчага спаборніцтва змешчаны ў № 2 нашай газеты. Чакаем цікавых і крэатыўных фотаздымкаў з арыгінальным тлумачэннем.***

ЛіМ

Выходзіць з 1932 года
У 1982 годзе газета ўзнагароджана ордэнам Дружбы народаў

Заснавальнікі:
Міністэрства інфармацыі Рэспублікі Беларусь, грамадскае аб'яднанне «Саюз пісьменнікаў Беларусі», рэдакцыйна-выдавецкая ўстанова «Выдавецкі дом "Звязда"»

Галоўны рэдактар
Ларыса Іванаўна ЦІМОШЫК



Адрас рэдакцыі:
Юрыдычны адрас:
220013, Мінск,
вул. Б. Хмяльніцкага, 10-а
E-mail: info@zvyazda.minsk.by

Адрас для карэспандэнцыі:
220013, Мінск, пр. Незалежнасці, 77
E-mail: lim_new@mail.ru
Адрас у інтэрнэце: www.zviazda.by

Тэлефоны:
галоўны рэдактар — 292-20-51
намеснік галоўнага рэдактара — 292-43-03
адказны сакратар — 292-20-51
аддзел крытыкі і бібліяграфіі — 292-56-53
аддзел прозы і паэзіі — 292-56-53
аддзел мастацтва — 292-20-51
аддзел «Кніжны свет» — 292-56-53
бухгалтэрыя — 287-18-14
Тэл./факс — 292-20-51

Выходзіць раз на тыдзень па пятніцах.

Падпісныя індэксы:
63856 — індывідуальны;
63815 — індывідуальны льготны для настаўнікаў;
638562 — ведамасны;
63880 — ведамасны льготны.

Пасведчанне аб дзяржаўнай рэгістрацыі сродку масавай інфармацыі № 7 ад 10.12.2012, выдадзенае Міністэрствам інфармацыі Рэспублікі Беларусь.

Выдавец:
Рэдакцыйна-выдавецкая ўстанова «Выдавецкі дом "Звязда"».
Дырэктар — галоўны рэдактар Павел Якаўлевіч СУХАРУКАЎ

Тэхнічны рэдактар, камп'ютарная вёрстка:
А. В. Бізункова

Камп'ютарны набор:
А. І. Грамыка

Стыльрэдактар:
Н. А. Святлова

Нумар падпісаны ў друк
4.05.2017 у 11.00

Ум. друк. арк. 3,72

Наклад — 1566.

Друкарня Рэспубліканскага ўнітарнага прадпрыемства «Выдавецтва «Беларускі Дом друку»
ЛП № 02330/106 ад 30.04.2004
г. Мінск, пр. Незалежнасці, 79.
Індэкс 220013

Заказ — 1773

Д 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12
М 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12

Пры перадруку просьба спасылацца на «ЛіМ». Рукапісы прымаюцца толькі ў электронным выглядзе, не вяртаюцца і не рэцэнзуюцца. Аўтары паведамляюць прозвішча, імя і імя па бацьку, пашпартныя звесткі, месца працы, адрас з індэксам. Пазіцыя рэдакцыі можа не супадаць з меркаваннямі аўтараў публікацый.



ISSN 0024-4686
9 770024 468001 17018